**Фэстываль бардаў «НЯБАЧНЫ МУР». Дытэр Калька й Шыман Зыховіч гавораць пра Менск, свабоду і песьні.**
*Старонка 6.*

**Французы выбралі новы сымбаль нацыі, «Мар'яну» — мадэльку Летыцыю Каста.**
*Старонка 5.*


# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №26 (147) 11 КАСТРЫЧНІКА 1999г.


**Мастаку закарцела намаляваць на мосьце цераз Сьвіслач вялікі...**

**Кроў, мастацтва і мянты ў новым жорсткім апавяданьні Адама Глёбуса «Графітыст».**
*Старонка 11.*

## зь Беларусі за суботу й нядзелю

### Тэлефон падаражэў

З учора падаражэў тэлефон: абанэнцкая плата за тэлефон, пераведзены на пагадзінную плату, пабольшае з 95 да 128 тысяч, а за непераведзены — з 153 да 206 тысяч. Цана хвіліны размовы па горадзе цяпер будзе 580 рублёў. Хвіліна размовы па Беларусі будзе каштаваць цяпер 6200 рублёў, з Польшчаю, Літвою, Латвіяй — 183 тысячы, з Расеяй — 174, з Украінай — 147, зь Сібірам — 214, зь Нямеччынай — 210, з Амэрыкай — 650, з Ізраілем — 764 тысячы. Амаль у 2,5 разы даражэюць тэлеграмы. Плата за радыёкропку павышаецца ў 2 разы. З 15 кастрычніка даражэе праезд прыгараднымі аўтобусамі на 44% і электрычкамі — у 2,5 разы.

### Лябедзька й Домаш у Бэрліне

Дэлегацыя Вярхоўнага Савету ў складзе гэтых двух дэпутатаў выправілася ўчора ў Бэрлін на сэсію сусьветнага Міжпарлямэнцкага зьвязу. У трох папярэдніх сэсіях гэтай установы з-за моцнага прэсынгу Расеі ўдзел бралі прадстаўнікі Лукашэнкавых палатаў. На рашэньне Міжпарлямэнцкага сходу запрасіць дэпутатаў законнага парлямэнту паўплывала тое, што прадстаўнікоў зьвязу не дапусьцілі прыехаць у Менск і сустрэцца з дэпутатамі-палітвязьнямі.

### Праўдзівае мастацтва

7 кастрычніка ў Віцебску ля Ратушы нехта высака прыладзіў велізэзны плякат, на якім былі намаляваны вядомы ў Беларусі вусаты дзядзька з абгладанымі косьцьмі ў роце. Надпіс тлумачыў: "Шклоўскія Дажынкі-99". Гэты нацюрморт, разьмешчаны акурат над сядзібай дырэкцыі "Славянскага базару", улады заўважылі толькі раніцай у пятніцу. Здымалі «супавы набор» пажарныя.

Зь Віцебску — Юрась Карпаў

### У Берасьці забаранілі ўкраінцаў

У Берасьці расьце крыўда ў шэрагах мясцовых украінскіх арганізацыяў. Пад час перарэгістрацыі замяталінская камісія адмовіла і суполцы «Просвіта», і Украінскаму грамадзка-культурнаму таварыству. Падставаў ніякіх не назвалі, аднак усім ясна: Лукашэнка даў каманду не дапусьціцца зьяўленьня сваёй Косава ў Беларусі. Перажываюць людзі ня так з-за арганізацыяў — можна і без рэгістрацыі існаваць — як з-за таго, што цяпер мусіць будзе спыніць існаваньне тыднёвік «Берестейський край», выдаваны «Просвітой», а ў УГКТ забяруць пакойчык, у якім можна было зьбірацца (сходы ў абласной бібліятэцы забароненыя даўно). Магчымасьцяў для легальнай украінскай дзейнасьці ў Берасьці фактычна не застаецца.

# Беларусь – Італія 0:0. 60 затрыманых

Матч Беларусь — Італія праходзіў пад дажджом, але, як заўсёды, з усплёскам нацыянальнага энтузіязму. Калі наш вечна пройгрышны чырвона-зялёны спорт, задушаны Лукашэнкавай забойчай любоўю, дае столькі падставаў для патрыятычных дэманстрацыяў, можна ўявіць сабе, якім магутным чыньнікам нацыянальнае ідэнтыфікацыі можа стаць нацыянальны спорт, пазбаўлены пітоніх абдымкаў дзяржавы і ўзбагачаны ўвагай прыватнага бізнэсу — як цяпер ва Ўкраіне, што адолела Расею (кажуць, што цяпер Кучму абавязкова выберуць).

Шчырыя беларусы традыцыйна пакупнялі сабе кветкі ў 11 сэктар стадыёну «Дынама». Туды ж былі сьцягнутыя вялікія сілы міліцыі, сэктар быў літаральна ачэплены «касманаўтамі» — амонаўцамі ў касках. Людзей абшуквалі на ўваходзе ў сэктар (дзявчат таксама), сьцягі забіралі, а сьцяганосцаў затрымлівалі. Так затрымалі Расьціслава Трацэўскага з Бабруйску.

Першым на трыбунах узьняў бел-чырвона-белы сьцяг Зьміцер Касьпяровіч. Да яго адразу кінуліся амонаўцы. Касьпяровіча схапілі, але ён пасьпеў перадаць сьцяг па радах. Урэшце сьцяг дайшоў да Паўла Севярынца, які зноў узьняў яго высока. Тады «касманаўты» кінуліся зь іншага боку да Севярынца й пацягнулі яго са стадыёну. Так чырвона-зялёныя фізкультурнікі дамагаліся чысьціні тэлекарцінкі. Упершыню да сэктару, дзе сядзела дэлегацыя Фронту й Маладога Фронту, быў загадзя падагнаны аўтазак.

Усяго на матчы затрымалі каля 60 чалавек. За ўзьняцьцё бел-чырвона-белых сьцягоў і надзіманьне балёнікаў нацыянальных колераў амонаўцы забралі, паводле зьвестак сакратара Ўправы БНФ Вячаслава Сіўчыка, тры дзясяткі чалавек, сярод іх кіраўніка Менскай абласной арганізацыі БНФ Валянціна Баранава (які спрабаваў чырвоным фламастарам размаляваць белы балёнік), Сяргея Міхнова, Кастуся Рэзьнічка, Алеся Каламійца ды іншых. Па старой амонаўскай завядзёнцы сяго-таго адразу добра білі, 17-гадовага Касьпяровіча, напрыклад, цягалі за валасы. У суботу на 22.30 у гарадзкім пастарунку на рагу Маркса й Леніна каля сьценкі пад дажджом, трымалі 22 арыштанты, але пад ноч частку пачалі выпускаць. Пратаколы складалі за ўзьняцьцё бел-чырвона-белых сьцягоў і за наяўнасьць улётак Маршу Свабоды.

Аляксандра Некраша, Антона Палумардэнава, Зьмітра Азьвінскага і яшчэ аднаго хлопца, імя якога нам невядомае, затрымалі ўжо ля «Кастрычніцкай» за тое, што адзін зь іх нёс бел-чырвона-белы сьцяг. Яшчэ трох хлопцаў, якія ішлі разам зь імі, удалося ўцячы.

*«Рэжым Лукашэнкі канае і дзеля самавыратаваньня імкнецца прадаць беларускую незалежнасьць. Гістэрычныя спробы задушыць праявы беларускай нацыянальнай самасьвядомасьці толькі прывядуць да хутчэйшага канца марыянэткавага рэжыму»*, — так адкамэнтаваў пазаўчорашнія падзеі лідэр БНФ Вінцук Вячорка. *«Гэта выглядала, як футбол пры акупацыі, і было страшней, чым на дэманстрацыях»*, — кажа Вячаслаў Сіўчык.

*Пра сам матч і кубак Эўропы — на старонцы 4.*

Барыс Тумар



Фота REUTERS

## Паседжаньне Прэзыдыюму ВС

### 13 кастрычніка Шарэцкі сустракаецца з Спэкгардам, а пад канец кастрычніка наведае зь візытам Нарвэгію

У мінулую пятніцу ў будынку Віленскага магістрату пад старшынёўствам Сямёна Шарэцкага адбылося паседжаньне Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету РБ.

Прысутнічалі дэпутаты Гіруць, Шушкевіч, Калякін і намесьнік старшыні спрадар Цярэня. Да іх для кансультацыяў далучыўся старшыня Камітэту правоў чалавека літоўскага Сэйму Эмануіл Зінгер. Прэзыдыюм прыняў праекты трох дакумэнтаў: звароту да ўраду Беларусі, заяву да расейскіх палітыкаў і заяву пра палітычнае становішча ў Беларусі.

Збольшага гэтыя дакумэнты паўтараюць зьмест ужо раней прынятых Вярхоўным Саветам папераў і нічога новага ў беларускі палітычны краявід не дадаюць. Напрыклад, што новага ў «Звароце да членаў ураду»: «...Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь зьвяртаецца да Вас з прапановай — станьце на бок закону і адмоўцеся ад гвалтоўнага ўтрыманьня ўлады, бо гэта, аб чым Вы таксама добра ведаеце, цягне за сабою крымінальную адказнасьць». Што такое «стаць на бок закону»? Зволніцца са службы? Ці пераехаць у Вільню да спадара Шарэцкага?

*Працяг на старонцы 5.*

## «Мітынг Свабоды»

### На пытаньні пра акцыю 17 кастрычніка адказвае Вінцук Вячорка

**— Каму належыць ідэя «Маршу Свабоды»?**

— Ідэя прыйшла ў галаву адначасова некалькім палітыкам. Падставы для гэтага былі відавочныя: з аднаго боку, гэта нелегітымнасьць Лукашэнкі і яго-нага ўраду, а з другога — тое, што ўлады з-за сваёй псыхалёгіі ўяўна не жадаюць ісьці на сапраўды канструктыўныя і плённыя перамовы з апазыцыяй. А цяпер яшчэ да ўсяго гэтага дадалася спроба Лукашэнкі пазбавіць Беларусь дзяржаўнасьці і далучыць яе да Расеі. Таму мы вырашылі, што народ павінен сам выйсьці на вуліцу і паказаць, чаго ж ён насамрэч хоча і на што ён варты.

**— Дзе і калі была дасягнута дамоўленасьць?**

— Гэта адбылося ў апошні дзень лета ў Астрашыцкім Гарадку, дзе рашэньне пра восеньскі Марш было прынятае сямю палітыкамі больш ці менш аднаго пакаленьня: Алесем Бяляцкім, Віктарам Івашкевічам, Анатолем Лябедзькам, Паўлам Данейкам, Міколам Статкевічам, Зьмітром Бандарэнкам і мною. Нас аб'ядноўвае ня толькі ўзрост, але й агульныя мэты: дэмакратыя, незалежнасьць, беларускасьць. Мы пакінулі ў баку ўсе свае амбіцыі, забыліся на адрозьненьні ў праграмах, бо, відавочна, ня гэта зараз галоўнае.

**— Ці ня станецца той саміт беларускай Вялікай Сямёркі падставай для ўтварэньня агульнага палітычнага блёку?**

— Па-першае, рашэньне аб акцыі было прынятае сямю палітыкамі, а заяву ў Мінгарвыканкам падпісалі ўжо 22 чалавекі, і я спадзяюся, што ў выпадку пасьпяховага выніку нашае задумы да нас далучацца і іншыя палітычныя сілы.

*Працяг на старонцы 4.*

## гутарка

# ПРАВЕДНІКІ СЯРОД ГРАХУ

За пяць гадоў свайго кіраваньня ў Беларусі Лукашэнка рашуча занізіў планку чалавечага вымярэньня. У гэтым галоўны вынік дзейнасьці яго самога і сукупны сэнс таго крызысу, які перажываем усе мы. Лепшыя рысы чалавека, нацыянальныя сьвятыні, агульначалавечыя каштоўнасьці — усё гэта ганіцца на самым дзяржаўным узроўні. А галоўнае — зьнявага чалавечае працы, высілкаў розуму і духу праз мізэрныя дзяржаўныя падачкі, якія толькі ўмоўна можна назваць заробкам.

Аднак, як тое заўсёды бывала і будзе ў такіх выпадках, знаходзяцца людзі, асобы, сьветлыя розумы, якія зноў і зноў пачынаюць спачатку свой безнадзейны, на думку многіх, чын — усьпіраюцца пад тую апалую планку чалавечага вымярэньня і пакрысе ўтрымліваюць парадку штосілы пасоўваюць яе ўгару. Цяжка ім, але яны бачаць, што кожны маленькі посьпех зьмяняе ляндшафт краіны. Яны настолькі калясальны, што можна забыцца пра цяжкасьці...

*Сёньня ў «НН» гутарка зь лідэрам новага аб'яднаньня моладзі «Эўрапейскі шлях» Аляксеем Фраловым — старонка 3.*

## лісты ў рэдакцыю

***

*22 кастрычніка старшыні Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады спадарыні Раісе Жук-Грышкевіч спаўняецца 80 гадоў.*

*Спн. Раіса нарадзілася ў 1919 годзе ў Пружанах у сям'і патомных земляробаў Надзеі і Міколы Жукоўскіх. Бацька яе заўжды зазначаў ёй, што яго продкі ніколі не былі прыгоннымі, а «заўсёды былі гаспадарамі». Дзед сьпяваў рэлігійныя гімны зь беларускага ўніяцкага малітоўніка.*

*У 1938 годзе яна паступіла на юрыдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту, стала сяброўкай Беларускага Студэнцкага Саюзу. Пад час нямецкае акупацыі, у 1942 годзе, Раісу разам са старэйшай сястрой Валянцінай вывезьлі на работы ў Нямеччыну. Толькі праз паўстагодзьдзя, прыехаўшы на Першы зьезд беларусаў сьвету, яна змагла зноў пабачыць Беларусь.*

*У 1953 годзе спн. Раіса зьвязала сваё жыцьцё зь Вінцэнтам Жук-Грышкевічам, будучым прэзыдэнтам Рады БНР. Яны цалкам аддавалі сябе грамадзкай працы дзеля Беларусі. Спн.Раіса была сакратаром, рэфэрэнтам па культуры, старшынёй Згуртаваньня Беларусаў Канады, у 1965 годзе заснавала Задзіночаньне Беларускіх Жанчын Канады; яна — сакратар-скарбнік Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе; доўгія гады была сакратаром Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, а з 1989 году — старшыня.*

*Жыве спадарыня Раіса ў невялікім гарадку Бэры ў 100 км ад Таронта ў старасьвецкім катэджы з чырвонае цэглы. Гэты дом памятае Натальлю Арсеньневу, Вітаўта Тумаша, Антона Адамовіча. У гэтым доме высьпела задума ўзьвесьці ў Сьвятой прошчы паўночнаамэрыканскіх пакутнікаў у Мідляндзе Памятны Крыж дзеля адзначэньня 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі.*

*Мае дзеці ды ўнукі і я вітаем нашую дарагую Матулю й Бабулю зь юбілеем! Зычым ёй сонечнай, пагоднай восені, добрага здароўя, шчодрага плёну з працы дзеля Бацькаўшчыны.*

**Рагнеда Грышкевіч-Аляхновіч, Менск**

## бытавуха

Славамір АДАМОВІЧ

### Пазьняк і Фронт

Зянон крыўдуе, што распачаты ім рух за адраджэньне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці шырэе і выходзіць з-пад ягонага кантролю. На крыўду накладаецца страх за ўласнае жыцьцё, які разьвіўся ў ім не без дапамогі беларускіх спэцслужбаў (існуе вэрсія, што інфармацыя пра магчымыя ў 1996 г. арышт і нават ліквідацыю Пазьняка была ўкінутая якраз дзеля таго, каб прымусіць лідэра БНФ пакінуць Беларусь). Пасьля зьнікненьня Віньнікавай ды Захаранкі чакаць вяртаньня Пазьняка на Радзіму ўжо не выпадала. Хаця, што праўда, некаторыя чакалі. Чакалі, што прыедзе з 20 па 21 ліпеня. Потым — што зьявіцца на зьезьдзе БНФ, каб не дапусьціць расколу. Не зьявіўся. Не прыехаў ні легальна, ні падпольна. Ці не таму, што не шануюць яго болей за колішнія «маральныя перамогі»? Ці не таму, што страшна за сёньняшнія паразы?

### Супраць Багушэвіча

«Дык што, вы ўступілі ў Саюз Пісьменьнікаў, каб мы ня ўмёрлі?» — замест «Дабрыдзень!» задала мне пытаньне намесьнік старшыні Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі Вольга Іпатава, калі а пятай увечары я зайшоў на пасяджэньне творчага аб'яднаньня «Літаратар». У выніку кароткай размовы мне стала вядома, што спн. Вольга за крэсла намесьніка не трымаецца і ў любы момант можа пакінуць пасаду, а вось калі я і далей буду крытыкаваць СП, дык на месца старшыні прыйдзе расейскамоўны Эдуард Скобелеў, і тады беларушчына ў пісьменьніцкім саюзе сапраўды ляснe.

### Алярм у КГБ

Крыніца, вартая даверу, паведамляе, што спэцслужбы рэжыму актывізавалі агентурную работу з недзяржаўнай прэсай. Напрыклад, супрацоўнікам адной расейскамоўнай газэты гэбісты настойліва прапануюць супрацоўніцтва наступным чынам: мы, спэцслужбы, перадаем вам, журналістам, канфідэнцыйную інфармацыю, а вы даводзіце яе да шагага чытача. Некаторыя палітычныя аналітыкі тлумачаць новую хвалю КГБ-актыўнасьці тым фактам, што дзяржбясьпека пачала калоцца на тых, хто гатовы «мачыць нацменаў», і тых, хто ў патрэбны момант падтрымае ўрад нацыянальнага выратаваньня. Адным словам, пасьля 20 ліпеня трывога сьпее і ў падразьдзяленьнях дзяржбясьпекі. Што, як ня дзіўна, супакойвае.

## Кроніка бягучых падзеяў

***Надрукавалі праект дамовы з Расеяй***

Міністар па справах СНГ Расеі Леанід Драчэўскі патрапіў пад час нядаўняга візыту ў Менск угаварыць А.Лукашэнку ўсё ж надрукаваць праект «саюзнай дамовы», хоць той ня надта падабаецца Лукашэнку. Дамова прадугледжвае стварэньне наднацыянальных органаў улады — «вышэйшага дзяржаўнага савету», «саюзных» ураду й дзьвюхпалатнага парлямэнту, «падліковай палаты» й «суду саюзу». Мяркуецца, што ў будучым ніжняя палата «саюзнага» парлямэнту будзе абірацца насельніцтвамі Беларусі й Расеі: 28 дэпутатаў ад Беларусі й 75 — ад Расеі.

Але да правядзеньня хаўрусных парлямэнцкіх выбараў «саюзны» парлямэнт будзе складацца з дэпутатаў, накіраваных нацыянальнымі парлямэнтамі. Прапанаваны дакумэнт не адрозьніваецца да папярэдніх праектаў, але пэўныя зьмены ўсё ж ёсьць — у арт.16 да выключных паўнамоцтваў «саюзу» дадалося кіраваньне рэгіянальнай беларуска-расейскай вайсковай групоўкаю. Згодна з арт.26 у «саюзнай» дзяржаве будуць дзейнічаць адзіныя прынцыпы спагнаньня падаткаў. У арт.27 і 28 вельмі жорстка дэкляруецца ўніфікацыя мытнай і гандлёвай палітыкі, а ў артыкуле 29 размова йдзе аб аб'яднаных энэргетычнай, транспартнай і тэлекамунікацыйнай сыстэмаў.

У праграме дзеяньняў этапы інтэграцыі расьпісаныя па гадох. Найбольш важныя зь іх:

2001 год — дасягненьне роўных умоваў для эканамічных суб'ектаў абедзьвюх краінаў;

2002 год — завяршэньне фармаваньня адзінае мытнае прасторы, прыняцьцё падатковага кодэксу «саюзу»;

2005 год — увядзеньне адзінае валюты.

Хаця ў апошнім пытаньні паміж бакамі захоўваюцца супярэчнасьці... Сам сабою тэкст дамовы мала чым адрозьніваецца ад таго, што было падпісана Ельцыным і Лукашэнкам раней. Усё тыя ж фразы пра «няўхільнае выкананьне свабодаў і правоў чалавека», пра «ўмацаваньне міру і ўзаемавыгоднага супрацоўніцтва ў Эўропе». Ёсьць, аднак, забойчая розьніца — у дамове гаворыцца менавіта пра адзіную дзяржаву.

А ў мэтах ажыцьцяўленьня адзінае палітыкі ў галіне абароны й ваеннага будаўніцтва ўжо ў наступным, 2000 годзе, плянуецца прыняць адзіную ваенную дактрыну «саюзнае» дзяржавы, стварыць рэгіянальную групоўку войскаў, сфармаваць адзіны абаронны заказ.

***Пасольства Злучаных Штатаў зьвярнулася ў МЗС Беларусі са скаргаю на дзеяньні беларускіх праваахоўных органаў, якія 4 кастрычніка ў часе перапрусу канфіскавалі ў Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» кампутары й друкаркі. Частка аргтэхнікі зьўляецца амэрыканскай уласнасьцю й была перададзеная Праваабарончаму Цэнтру ў карыстаньне.***

Міліцыя адмаўляецца вяртаць кампутары на той падставе, што зараз яны праходзяць «экспэртызу». Што гэта за «экспэртыза», міліцыянты паведамляць адмаўляюцца. Валянцін Стэфановіч, юрыст «Вясны», сьцьвярджае, што гэта таксама зьяўляецца парушэньнем беларускага заканадаўства, бо файлы кампутараў — прыватная інфармацыя. І каб іх прагледзець, праваахоўным органам трэба спачатку атрымаць санкцыю пракурора.

Паводле апошніх зьвестак, кампутары мусілі вярнуць сёньня.

***5 кастрычніка падатковая інспэкцыя запатрабавала закрыцьця незалежнага штотыднёвіка «Беларуская маладзёжная», скіраваўшы адпаведны ліст у Дзяржаўны камітэт па друку...***

Яшчэ не пасьпеў высахнуць атрамант на паперы наконт закрыцьця газэты «*Навіны*», як на мяжы закрыцьця апынуўся штотыднёвік «*Беларуская маладзёжная*» зь 5-тысячным накладам. Галоўны рэдактар газэты Тацяна Мельнічук паведаміла, што з ініцыятывы закрыцьця выданьня выступіла падатковая інспэкцыя Фрунзэнскага раёну Менску, якая скіравала адпаведны ліст у Дзяржаўны камітэт па друку. Галоўны рэдактар «*Беларускай маладзёжнай*» Т.Мельнічук заявіла, што калі газэта ўсё ж будзе зачыненая, дык выданьне зарэгіструецца пад новай назваю. Пакуль рэдакцыя рыхтуецца да горшага.

***4 кастрычніка інфармацыйныя агенцтвы распаўсюдзілі заяву праваабарончай арганізацыі «Amnesty International», паводле якой пяць грамадзянаў Беларусі абвешчаныя патэнцыйнымі вязьнямі сумленьня...***

У заяве «Amnesty International» зьвернутая ўвага на тое, што пасьля некалькіх мірных дэманстрацыяў, што адбываліся апошнім часам у Беларусі, супраць некаторых дзеячоў апазыцыі былі распачатыя крымінальныя справы. У гэтай сувязі называюцца імёны старшыні Беларускае сацыял-дэмакратычнае партыі «Народная Грамада» Міколы Статкевіча, журналісткі Ірыны Халіп, прэзыдэнта фонду «Праўная дапамога насельніцтву» Алега Воўчака, адвакаткі Веры Страмкоўскай, актывіста БНФ Яўгена Асінскага. «Amnesty International» прыйшла да высновы, што «ўлады зьбіраюцца запалохаць відных апазыцыянэраў ды пакараць іх за актыўную антыўрадавую дзейнасьць».

Міжнародная амністыя адзначае, што супраць гэтых людзей не былі вылучаныя ніякія канкрэтныя абвінавачаньні. Аднак, бальшыню з названых асобаў неўзабаве чакае суд. У сувязі з гэтым «Amnesty International» абвяшчае сваю гатовасьць назваць гэтых асобаў вязьнямі сумленьня, калі беларускае правасудзьдзе прызнае іх вінаватымі».

***8 кастрычніка афіцыйны Менск праігнараваў нараду кіраўнікоў урадаў краінаў СНГ і пасяджаньне міністраў замежных справаў СНГ, што распачаліся сёньня ў Ялце. У Крым зьехаліся прадстаўнікі ўсіх краінаў Садружнасьці за выняткам Беларусі.***

Афіцыйная вэрсія адсутнасьці на сёньняшняй сустрэчы беларускага прэм'ера Сяргея Лінга й міністра замежных справаў Урала Латыпава гучыць сымптаматычна: «У сувязі з надзвычай важнымі ўнутрыдзяржаўнымі мерапрыемствамі».

Афіцыйныя тлумачэньні гучаць як мінімум неперакананўча. На карысьць той вэрсіі, што афіцыйны Менск праігнараваў ялцінскую сустрэчу, гаворыць той факт, што замест Лінга і Латыпава, якія «надзвычай занятыя», туды не паехаў ніхто.

Сярод матываў такіх дзеяньняў называецца надзвычайная крыўдлівасьць беларускага лідэра, якога, нагадаю, месяц таму дэманстратыўна не запрасілі на канфэрэнцыю прэзыдэнтаў Балта-Чарнаморскага рэгіёну, што праходзіла ва Ўкраіне. Цяперашні дэмарш афіцыйнага Менску стаў своеасаблівым «адказам Кіеву».

Сытуацыя з ігнараваньнем беларусамі ялцінскае нарады ілюструе тую лёгкасьць, зь якой афіцыйны Менск псуе дачыненьні цяпер ужо ня толькі з Захадам, але й з бліжэйшымі суседзямі. Самаізаляцыя стала той цаною, якую Беларусь вымушаная плаціць за крыўды свайго лідэра.

**Агляд падрыхтаваў Зьміцер Спапкоўскі**



## Знакам тым

# ЗЬ ВЕРАЮ Ў РЭВАНШ

Вольга КАРАТКЕВІЧ

Наканаваная блізкасьць з Расеяй топіць ў багне нашы цывілізацыйныя парываньні. Суседства зь нездаровым суб'ектам гвалціць эўрапейскую ўісьце сваёй псыхіку беларускай нацыі. Цяперашняе наталеньне расейскага імпэрскага голаду — тэст на нашу жывучасьць: два стагодзьдзі дыхаем. Ці знойдзем паветра на наступныя два?

Неяк у паўгадзінным спэктаклі БТ «Рэзананс» выканаўца абавязкаў аналітыка Зімоўскі пусьціў у эфір прызначанага генэратарам інтэграцыйных ідэяў Посахава, і апошні надта наракаў, што ў інфармацыйных праграмах абедзьвюх тэлевізіяў не гучыць думка прадстаўнікоў беларускіх рэгіянальных элітаў (?), а таксама расейскіх рэгіянальных элітаў — прыхільнікаў аб'яднаньня. Посахаў нат паскардзіўся — толькі Аўшавым, Шайміевым даюць слова. Тут бы сп.Посахаву быць запрошаным у праграму сп. Дарэнкі (але ж ня пусьцяць!) і там трубіць пра «нацыяналістычныя» выхадкі прэзыдэнта Татарстану, які зацьвердзіў лацінку, ды выкрываць паплечніка сэпаратыстаў Аўшава. Пры гэтым забываючыся на «эфэктыўнасьць» нацыянальнай палітыкі Расеі — «краіны Вялікай Мары» непаўнавартасных беларусаў: у Інгушэціі трацiну насельніцтва складаюць уцекачы.

У час, калі хочацца адгарадзіцца ад Расеі падвойным кітайскім мурам: адгарадзіцца ад паняткаў «тэрытарыяльная цэласнасьць любой цаною», «славянская місія» ды «санітарны кардон», «асобы каўказкай нацыянальнасьці», адгарадзіцца ад самадураў і барбараў, — друкуецца праект дамовы аб стварэньні саюзнай дзяржавы. Пад рубрыкай «Усенароднае абмеркаваньне» ў газэце «Советская Белоруссия». Вельмі шмат людзей у беларускіх гарадах у пятніцу ўранку пачалі са страваваньня праекту дамовы. Сур'ёзна і ўдумліва. Таму тэза, што электарат гатовы аб'ядноцца і з Уагадугу, аспрэчваецца падвышанай палітычнай культурай насельніцтва. Ня ведаю, ці гэты праект Лукашэнка назваў «пасьмешышчам», але параўнаць распрацаваны дакумэнт можна са шматлікімі савецкімі гіпсавымі ляпнінамі, якія мусілі імітаваць здаровых носьбітаў навязаных каштоўнасьцяў. Ад імя няшчасных народаў абвяшчаецца спроба зрабіць народы шчасьлівымі. РБ і РФ «ствараюць Саюзную дзяржаву, якая ёсьць новым этапам у працэсе яднаньня народаў дзьвюх краінаў у дэмакратычную прававу дзяржаву». Што такое, паводле праекту, дзяржава «сьвецкая»? Ці варта нават фантазіяваць пра яе пабудову на аснове двух грамадстваў, якія не пазбавіліся савецкай і крымінальнай мутацыі? Калі я чытаю стосы агітацыйнай пісаніны ў падтрымку Саюзу, у мяне абвастраецца хваляваньне за экалёгію — столькі лесу змарнавалі!

Якія пачуцьці можа выклікаць беспардонны гандаль краінай, землямі, жыцьцямі, культурамі ў імя палітычных і камэрцыйных амбіцыяў некалькіх дзясяткоў (тут) і некалькіх соцень (там, у Расеі) палітыкаў? Веру ў рэванш. Па традыцыі, бярэм яго пакуль ня мы, але ж успрымаем як пэўнае суцяшэньне й чужыя перамогі: ня ўсё ім, маскалям, масьленіца... Расею пэрыядычна стрымліваюць народы, таксама конам зьвязаныя зь бязьмерным усходнім тэрмінатарам. Гэта літоўцы на пачатку 90-х, гэта каўкаскія народы цяпер, якія йдуць у апалчэньні, каб паспрабаваць сваімі сіламі усталёўваць лад і парадак на сваёй зямлі. Гэта палякі, якія падзеі ў Расеі падаюць як неадаптаваны трылер. Гэта ўкраінцы, чый Шаўчэнка прадэманстраваў, каму гуляць у Эўропе. ■



## Аляксей Фралоў:

# ПРАВЕДНІКІ СЯРОД ГРАХУ

**— Аляксей, пры канцы мінулага месяца дзеячы культуры зьвярнуліся з Адкрытым лістом у абарону помнікаў архітэктуры, што ацалелі ў Менску. Ліст гэты атрымаў шырокі розгалас у друку. А я ведаю, што пісаў яго ты. Скажы, каму прыйшла ў галаву ідэя — сабраць подпісы ў аўтарытэтных людзей?**

— Гэта ініцыятыва нашага новага аб'яднаньня «Эўрапейскі шлях». Пасьля пары пікетаў, якія мы здолелі правесьці, у прыватнасьці, на Верхнім Горадзе, узьнікла жаданьне пашырыць спосабы барацьбы за ратаваньне спадчыны, у тым ліку старога Менску. Ня можна замыкацца адно на пікетах. На нізавым узроўні гэтым нікога ня зьдзівіш, бо рэагуюць ужо слаба. Лісты проста грамадзянаў, якія мы накіроўвалі і ў пракуратуру, і ў Камітэт па ахове помнікаў пры Менгарвыканкаме, проста ў Гарвыканкам, не далі эфэкту. Узьнікла ідэя сабраць подпісы гэткіх людзей, якіх не паслухаць ня змогуць. Чые галасы ёсьць яскравым званом грамадзкай актыўнасьці. Сэнс быў у тым, каб сабраць подпісы ў людзей, традыцыйна не заангажаваных у палітычнай дзейнасьці. Гэта людзі розных поглядаў, розных палітычных прыхільнасьцяў, з розных творчых і навуковых сфэраў... Цікавы быў сам працэс падпісаньня. Большасьць падпісвала адразу. Не патрабуючы дадатковых тлумачэньняў. Усе яны ведалі праблему! І былі гатовыя да гэткага чыну. Выйсьце ў нас саміх. Варта толькі клапаціцца пра свой жа пад'езд, двор і горад. Варта проста жыць паводле закону, які атрымалі ад Бога. Трэба міняць савецкі лад жыцьця на нармальны. На эўрапейскі. Трэба зьберагчы адзін помнік, шанаваць родную мову... не выкідваць бутэлькі з балькону, трэба вымаўляць «выбачайце», дзе трэба. У нас жа проста нізкая культура сёньня. Каб у нас была гэткая ж пабытовая культура і ўзровень выхаваньня, як у эўрапейскіх краінах, наша грамадзтва ўмела б захоўваць і спадчыну, і мову.

**— Ты перадусім музыка... Хто твае настаўнікі?**

— У музыцы, безумоўна, гэта выдатны фагатыст, прафэсар музыкі, спадар Буткевіч. Сапраўдны самародак. Ён атрымаў выдатную адукацыю ў фагатыста, таксама беларускага паходжаньня, прафэсара Кіеўскае кансэрваторыі Ўладзімера Ападзкага. Гэта выбітны навукоўца й пэдагог. Гэтак у Беларусі склалася цэлая плеяда выдатных фагатыстаў, моцная школа фагату. Мо я й не перабраў тузіну прафэсараў, але меў аднаго й выдатнага.

**— Раскажы крыху пра сваю музычную кар'еру.**

— У 1989 годзе, як я заканчваў ліцэй пры кансэрваторыі, дык браў удзел ва Ўсесаюзным, тады яшчэ, конкурсе выканаўцаў на духавых інструмэнтах, які праходзіў у Варонежы. І я стаў ляўрэатам гэтага конкурсу, з Божае ласкі. Вось і летась, у Байройце, што ў Нямеччыне, слаўным музычным цэнтры, таксама праходзіў конкурс выканаўцаў да 30 гадоў. Зьехалася каля 150 прадстаўнікоў з усіх краінаў Эўропы. Было каля 30 адных фагатыстаў. Я прайшоў да перадапошняга туру, увайшоўшы ў шасьцёрку маладых фагатыстаў Эўропы. Я там граў француската кампазытара Эжэна База.

**— Ты згадваеш пра выхаваньне. А хто выхоўваў цябе?**

— Галоўны мой настаўнік — мама. З чатырох гадоў яна вадзіла мяне і ў філярмонію, і ў опэрны тэатар на сур'ёзную клясычную музыку. Наш род па матчынай лініі паходзіць зь вёскі Плісы, што на Смалявіччыне, пад Менскам. Ну, а прозьвішча бацькава, Фралоў, паходзіць ад старога роду, што жыў у Крычаве. Мой бацька быў выдатным музыкам, габаістам, салістам філярмоніі і ансамблю старадаўняе музыкі «Кантабіле». І менавіта дзякуючы бацькам я абраў шлях музыкі. А да таго я вучыўся адразу ў дзьвюх школах — фізыка-матэматычнай і музычнай...

**— Чаму ты абраў менавіта фагот?**

— Таму, што гэта найбольш блізкі інструмэнт да інструмэнту майго бацькі. Не габой, бо мае дадзеныя, амбушур, больш падыходзяць да фагату.

**— А каб не фагот, на якім бы ты інструмэнце йграў?**

— Мог бы стаць і піяністам... Або арганістам. Арган — кароль музычных інструмэнтаў, бо злучае ў сабе ўсе інструмэнты разам. Сапраўды, гэта Боскі інструмэнт. Калі падыходзіш да аргану, а патаго сядаеш за яго — гэта нешта незвычайнае. Уражаньне, што маеш дачыненьне з Боскім сьветам і ўзносісься з грэшнае зямлі. Даводзілася іграць у цудоўным касьцёле, што ў Красным. А ў дзяцінстве мяне бацька садзіў за галоўны арган краіны, што ў філярмоніі. Ну, і ў касьцёле Сьвятога Роха... Хацелася б часьцей.

**— Ты яшчэ й фізыку з матэматыкай любіў?**

— Любіў! Як ня дзіўна. Страшна любіў хімію. Ставіў экспэрымэнты на бальконе. Але…

*Калі сябра царквы пасыўны, ня дзейны, дык гэта непаўнавартасная частка цела Хрыстовага.*

**— Але ты ўсё ж стаў прафэсійным музыкам...**

— Я працую цяпер у ансамблі пры Дзяржфілярмоніі «Клясык-авангард». Гэта ансамбаль салістаў. Ён унікальны сваім складам, бо кожнага інструмэнту, апроч скрыпак, там прадстаўлена па адным. Там і струнныя, і мядзяныя, і натуральна, адзін раяль і адна арфа. Часам прыцягваем яшчэ выканаўцаў, для больш шырокіх якіх выкананьняў. Гэты ансамбаль можа граць і дуэт, і трыа. Мы толькі вярнуліся са

*...Паглядзеў налева, у бок Герцэна: на месцы дому стаіць экскаватар. Я быў у шоку. І пабег, паабураўшыся на месцы, як у апошнюю інстанцыю, на сядзібу Ўправы БНФ. Да Пазьняка. Ён быў у кабінэце і ведаў, што рабіць, з кім зьвязвацца. Удалося на час ўратаваць кавалкі дому № 2, дзе, як высьвятлілася, былі росьпісы XVIII ст. у дзьвюх залях. Каб ня той выпадак, у тую гадзіну, мы пра іх нічога б ня ведалі. А так іх здолелі зафіксаваць.*

Швэйцарыі... Там была наладжаная праграма нашага супрацоўніцтва са швэйцарскімі музыкамі. Супольна запісалі творы сучаснай музыкі, швэйцарскіх і беларускіх аўтараў. Беларускія — вядомыя ў Эўропе сучасныя кампазытары — Вячаслаў Кузьняцоў і Віктар Капыцька, а швэйцарскія — вельмі арыгінальны малады кампазытар Бруна Карэр і выбітны аўтар нашага стагодзьдзя Відмар. Зрабілі са швэйцарцамі два кампакт-дыскі.

**— Ты часта гаворыш пра Бога. Ты вернік?**

— Так, я веруючы чалавек! Я абышоў, мабыць, як і кожны нэафіт, бажніцы розных канфэсіяў, і Бог прывёў мяне да рэфармацкай традыцыі, да кальвінскай эвангелічна-рэфармацкай канфэсіі. Гэта найбольш адпавядае майму стану. Гэта найбольш адэкватна таму, чаго хоча ад мяне Бог.

**— Як гэта адбылося?**

— Я ўжо ў сьвядомым узросьце, у 14—15 гадоў, пакрысе пачаў ператварацца з савецкага хлопчыка найперш у беларуса. Празь цікавасьць да беларускіх цэркваў, архітэктуры, помнікаў. Краязнаўчая цікавасьць. А тут пачаліся першыя фронтаўскія мітынгі. І ўжо зь мітынгу ў лютым 89-га мяне закружыла грамадзкае жыцьцё. І ўсьведамляючы сябе беларусам, канкрэтным чалавекам у канкрэтнай краіне, у гэтым горадзе, я стаў прыходзіць да думкі, што гэты горад, гэтая культура, гэтая мова дадзеныя мне невыпадкова. Гэта дар Божы. І трэба яго спазнаць. Я быў хрышчаны ў праваслаўнай царкве, пасьля вандраваў па розных беларускіх бажніцах, але ў 92-м годзе натрапіў (Бог прывёў) на рэфармацкую грамаду, якая тады толькі ўтваралася. Сёньня пастарам Беларускай рэфармацка-эвангелічнай грамады зьяўляецца Лявон Ліпень. Тут ужо адбылося маё сталеньне ў духоўным сэнсе. Цяпер у Менску ўтварылася другая эвангелічна-рэфармацкая грамада, у якой я ўдзельнічаю, якая таксама працягвае традыцыі Рэфармацыі. Рэфармацыя мае на ўвазе, што кожны вернік, кожны сябра збору ёсьць актывістам. Калі сябра царквы пасыўны, ня дзейны, дык гэта непаўнавартасная частка цела Хрыстовага. У нашай грамадзе пакуль няма пастыра, але ён яшчэ вучыцца. Ёсьць у нас і кандыдаты на прэзьбітэра, дыяканаў. Духоўная мая праца — гэта праца на будаўніцтве яшчэ адной, другой рэфармацкай грамады ў Менску.

**— Табе стала цесна побач з пастарам Ліпенем?**

— Не! Пастар Лявон даў вельмі шмат (і дае) людзям, якія зь ім кантактуюць. І павучаньняў у духоўнасьці і ў чалавечым сэнсе. Ён мой настаўнік духоўны. Але гэтак склалася, што мы ўтварылі яшчэ адну грамаду. Чым больш будзе грамадаў, чым больш асяродкаў — тым лепей.

**— А хто ты ў БНФ?**

— У БНФ я фармальна з 92-га. Цяпер я старшыня суполкі, сябра Цьнянскай рады ў сваім раёне, таксама сябра Ўправы Цэнтральнае рады Маладога Фронту. Там свая дзейнасьць. Пэрспэктыўная, дарэчы. Бо Малады Фронт мае шмат задумаў, шмат праектаў. І шмат робіць і шмат зрабіў. Найперш, можа, у пляне асьветніцкім, у падрыхтоўцы кадраў для маладога ўсьвядомленага беларускага жыцьця.

**— Якую ролю ў тваім жыцьці адыграў Зянон Пазьняк?**

— Я пазнаёміўся зь ім, як і ўсе — на мітынгах, сустрэчах фронтаўскіх. Пазьняк — выбітны навукоўца, мастацтвазнаўца. І ягоная кніжка «Рэха даўняга часу» — сапраўдная крыніца натхненьня. Калі блукаеш вуліцамі старога Менску, Верхняга Гораду, прадмесьцяў, дык і насамрэч адчуваеш той нябачны дух, які здолеў выказаць Зянон Пазьняк у сваёй кнізе. І вось гэткае знаёмства з навукоўцам, мастацтвазнаўцам, далёкае ад палітыкі, зрабіла на мяне магутнае ўражаньне... Гэта было ў 95-м. Я ішоў з заняткаў у кансэрваторыі, ішоў сабе старымі вулачкамі і неяк паглядзеў налева, у бок былой Бэрнардынскай (цяпер Герцэна). Бачу, што на месцы былога дому стаіць экскаватар. Я быў у шоку. І пабег, паабураўшыся на месцы, як у апошнюю інстанцыю, на сядзібу Ўправы БНФ. Да Пазьняка. Ён быў у кабінэце і ведаў, што рабіць, з кім зьвязвацца. Тут жа ўключыліся мэханізмы. Падключылася камісія Вярхоўнага Савету, спадар Алег Трусаў, спадар Уладзімер Дзянісаў. Фактычна ўдалося тады на час ўратаваць кавалкі дому №2, дзе, як высьвятлілася, былі росьпісы, прынамсі ў дзьвюх залях. Каб ня той выпадак, у тую гадзіну, мы пра іх нічога б ня ведалі. Пра росьпісы XVIII ст. у жылым будынку. Іх, дзякуй Богу, здолелі зафіксаваць. Папрацавалі рэстаўратары, мастакі. Дом, праўда, пасьля ўсё ж зруйнавалі...

**— Твае меркаваньні пра тое, што адбылося ў БНФ?**

— Мне здаецца, тут праблема глябальная. Праблема нядобрых чалавечых якасьцяў. І ў гэтых праблемах, канфліктах адыгралі першую ролю проста чалавечыя амбіцыі. Яны вырасьлі і выявіліся ў нелюбові й непавазе да чужой думкі. І ў выніку — нянавісьць. У асяродку аднадумцаў, паплечнікаў прабягае чорны кот нянавісьці. Гэта — канец. Пакуль людзі не адкінуць нянавісьць, пакуль не папросяць выбачэньня адзін у аднаго — нічога ня будзе. Пасьля канфліктных працэсаў, пасьля ўсяго нарobленага, у маім уяўленьні найлепшым сцэнарам на сёньня было б стварэньне нейкай канфэдэрацыі незалежніцкіх сілаў. Дзьве палавінкі БНФ маглі б утварыць такі катамаран, калі два чаўны, нібы аўтаномныя, рухаюцца ў адным кірунку. Але разам яны ўжо мусяць уваходзіць у большы народны рух. Ці то БНФ «Адраджэньне», ці то яшчэ што.

**— Вы зь сябрамі зьбіраецеся й на сьпеўкі?**

— Гэта ўжо асобная галіна дзейнасьці! Вось ужо больш як год. На дату з дня сьмерці Багдановіча мы сабраліся ля ягонага помніка на Траецкай гары й прасьпявалі «Пагоню», пасьля яшчэ колькі песьняў... І вось гэтак нарадзілася ідэя распачаць сьпеўную ініцыятыву. Зьбіраць, вывучаць і распаўсюджваць гэтыя песьні. У выніку маем дастаткова вялікі аб'ём працы. Шмат ужо зроблена. Каля 200 чалавек тым ці іншым чынам былі далучаныя. Мы сьпяваем і патрыятычныя, і народныя, бардаўскія й лірычныя песьні.

**— А дзе зьбіраецеся?**

— Кожную пятніцу на сядзібе БНФ.

---

Аляксей падрыхтаваў сьпеўнік патрыятычных песень і шукае магчымасьці яго выдаць. Зрэшты, наўрад ці магчыма пералічыць усё, чым займаецца чалавек, калі ён займаецца нацыянальным адраджэньнем.

Ён не выглядае на змагара з барыкадаў, ці на ляснога брата, ці на мітынганта. Бо ён ня анты-. У адрозьненьне ад цяперашняга кіраўнічага рэжыму, ён добра ведае і любіць тую краіну і тую культуру, за якую пачуваецца адказным. Ён і ягоныя сябры — больш работнікі, чым змагары. Гэта значыць, што іх цяжэй перамагчы. Калі ж казаць пра знакавую зьмену сытуацыі, якую нясуць з сабой Фралоў і ягоная суполка, дык варта параўнаць іх з прафэсійнымі нацыяналістамі, чыя дзейнасьць за апошнія дзесяць гадоў набыла характар рэакцыі на тое, што робяць улады. Калі ўлады нічога ня робяць, назіраецца застой і ў асяродку адраджэнцаў. У выпадку ж Фралова — інакш. Пабуджальны матыў — ня бойка з дыктатарам, а будаваньне іншае супольнасьці, у якой планка чалавечага вымярэньня мусіць быць узьнятая як найвышэй.

**Сяргей Харэўскі**

---

### Даведка «НН»

**Аляксей Фралоў** нарадзіўся ў 1975 годзе ў Менску. Закончыў музычны ліцэй пры Белдзяржкансэрваторыі, а потым, у 1998 годзе, і кансэрваторыю ў клясе фаготу. Саліст ансамблю «Клясык-авангард» пры Беларускай філярмоніі. Актыўны ўдзельнік кальвініцкага руху, сябра БНФ, лідэр аб'яднаньня «Эўрапейскі шлях», аўтар дэмакратычных і культурных ініцыятываў...

весткі зь Вільні

# Паседжаньне Прэзыдыюму ВС

*Працяг са старонкі 1.*

Ці падняць па трывозе войскі й арыштаваць Лукашэнку? Паколькі Старшыня Прэзыдыюму ВС зьяўляецца адзіным легітымным кіраўніком дзяржавы, дык у ягонай кампэтэнцыі даваць загады, а не папяраджваць. А ў выпадку невыкананьня загадаў — караць за дзяржаўную здраду. І нічога сьмешнага ў гэткіх загадах няма. Прынамсі, гэта ня больш сьмешна, чым чарговыя папярэджваньні фактычных злачынцаў, якія выконваюць злачынныя загады свайго «пахана».

Зварот да расейскай грамадзкасьці наагул гучыць бязадрасна. Невядома каго папяраджваюць, што Лукашэнка ўзурпатар, а ягоныя подпісы несапраўдныя. Пры тым нібы й пужаюць: «...Падтрымка і заігрываньне расейскіх палітыкаў з антынародным дыктатарскім рэжымам, усталяваным А.Лукашэнкам у Беларусі, кладзецца чорнай плямаю на тыя добрыя адносіны, якія мае беларускі народ у дачыненьні да народаў Расеі». Гэтая заява распрацоўвалася па-расейску, як, дарэчы, і наагул «абшчающца» міжсобку члены Вярхоўнага Савету. Зрэшты, гэта іх канстытуцыйнае права. Але ў сфэру іхных правоў уваходзіць і юрыдычная ліквідацыя, напрыклад, лукашэнкаўскае сымболікі. Як Вярхоўны Савет не прызнае тыя рэфэрэндумы, дык чаму ня быць паслядоўнымі й анулюваць ратыфікацыю іхных вынікаў. Усё ж нейкая справа. Бо людзі, якія гатовыя выйсьці на вуліцы Маршам Свабоды, пойдуць не пад тымі сьцягамі, пад якімі сядзіць Вярхоўны Савет.

Дакументы чарговы раз сьведчаць, што ВС у сваім сёньняшнім складзе ня ў стане выступаць з канкрэтнымі палітычнымі ініцыятывамі. Яго задача на сёньня значна сьціплейшая — выжыць. А па зьнікненьні Ганчара гэта гучыць ужо літаральна... Мо таму й не шукаецца спосабаў заявіць пра сябе гучна. З другога боку, гэтая рахманасьць, боязь здэнэрваваць АБСЭ альбо ЗША, недавер да дзейсных публічных палітыкаў, ператварае пакрысе ВС у клюб старэйшынаў, якіх і далей будуць ветліва прымаць, уважліва слухаць... Аднак ніхто ня будзе інвэставаць у гэтае прадпрыемства, якое ня мае яснага бізнэс-пляну. Пагатоў, іхныя мэты й задачы ня бачныя нацыі...

Аднак палітычная актыўнасьць у Вільні ўсё ж мае і свой плён. Крок за крокам Літва набліжаецца да паўнавартаснага прызнаньня Вярхоўнага Савету й спадара Шарэцкага як адзінай і законнай улады Беларусі. Усьлед за літоўскім парлямэнтам сталі гатовыя, нарэшце, да дыялёгу і выканаўчыя ўлады. На аўторак, напрыклад, запляноўвалася ўжо афіцыйная сустрэча Шарэцкага ў МЗС Літвы. Нікога ўжо тут ня дзівяць і ягоныя афіцыйныя сустрэчы ў пасольствах розных краінаў. Магчыма, на гэтым тыдні адбудуцца чарговыя візыты сп.Шарэцкага ў амбасады Нямеччыны й Аўстрыі.

Учора, ізноў праз Вільню, у Нямеччыну, па даручэньні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, выправіліся дэпутататы Лябедзька й Домаш — для перамоваў з прадстаўнікамі парлямэнтаў Эўропы. На 13 кастрычніка прызначаныя афіцыйныя перамовы сп.Шарэцкага з пасолам ЗША ў Беларусі, Спэкгардам. А напрыканцы кастрычніка Сямён Шарэцкі наведае зь візытам Нарвэгію. Прынамсі, аднае мэты яны ўсё ж дасягаюць — замежная палітыка Беларусі знаходзіцца насамрэч у іхных руках.

**Ліцьвін**

# ШТО ЧАКАЕ ДЫКТАТАРА



Фота REUTERS

***8 кастрычніка Лёндандскі Суд прыняў пастанову ў справе былога чылійскага дыктатара Аўгуста Пінача, якому за злачынствы супраць чалавецтва пагражае экстрадыцыя ў Гішпанію...***

*Як бы хто ня ставіўся да гэтае асобы, сама справа Пінача ўжо мае значэньне як прэцэдэнт для аналягічнага прыцягненьня да адказнасьці іншых парушальнікаў правоў чалавека ў сьвеце... Асобныя актывісты праваабарончых арганізацыяў разглядаюць справу Пінача, як вырашальнае выпрабаваньне прынцыпу, згодна зь якім ніхто, нават былы кіраўнік дзяржавы, ня можа быць пазбаўлены адказнасьці за злачынствы супраць чалавецтва.*





Летыцыя Каста (зьлева) абышла іншых канкурэнтак на ролю сымбаля Францыі.











Projets sélectionnés à «Philexfrance 89», réalisés par F. Bernal, C. Bonnehon, C. Bridoux, C. Jumelet, J.-C. Mathias, C. de la Patellière, gravés par E. Lacaque, P. Béquet, J. Larrivière, C. Jumelet, G. Bétemps et C. Durrens.





# СЫМБАЛЬ ФРАНЦУСКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Ёсьць у французаў гэткая завядзёнка: раз на дзесяць гадоў яны абіраюць сымбаль нацыі, легендарную Мар'яну. Першы яе вобраз як алегорыю Свабоды стварыў яшчэ ў 1830 годзе мастак Эжэн Дэлякруа. Дзяўчына ў фрыгійскім каўпаку са сьцягам у руках стала з таго часу ўвасабленьнем Францыі. Выявы Мар'яны ўпрыгожваюць французскія грошы, маркі, паштоўкі. Яе бюсты (з галавою) зьмяшчаюць ва ўрадавых кабінэтах і школьных клясах. Каб ніхто не забываўся на ідэал. У сэнсе *Liberté, Egalité et Fraternité*.

Да 1969 году вобраз гэтае дзяўчыны ні з кім канкрэтным не атаесамлялі, пакуль мастакам ды мадэльерам не прыйшла ўдалая думка на кожнае дзесяцігодзьдзе выбіраць новы жывы прататып Мар'яны. Першай стала Брыжыт Бардо. Усьлед за ёю на сымбаляў нацыі абіралі іншых простых дзяўчатаў — Катрын Дэнёў, Мірэй Мат'ё, Сафі Марсо... Сёлета асацыяцыя мэраў Францыі, якая лучыць больш за 36 000 урадоўцаў, выбірала нацыянальны сымбаль, зь якім краіна ўвойдзе ў наступнае тысячагодзьдзе. Выбар рабілі паміж пяцю кандыдаткамі: супэрмадэлямі Летыцыяй Каста й Эстэль Халідэй, тэлежурналісткай Даніэляй Лембразо, чэмпіёнкай па віндсэрфінгу Наталі Сымон і сьпявачкай Патрысіяй Каас. Упершыню шмат хто ў Францыі крытыкуе конкурс на Мар'яну. Рэч у тым, што абраньне мэрамі Мар'яны выдае на конкурс прыгажосьці і, на думку некаторых, ганьбіць жанчыну. Жанчынамэр зь мястэчка Артыг-прэ-Бардо, Франсуаза Картрон упэўнівала, што «Мар'яна павінна цяпер адлюстроўваць ня толькі ідэал прыгажосьці, але й вобраз сучаснай жанчыны наагул». Яе падтрымлівала й рэдактарка часопіса «Elle» Мішэль Фітусі: «... У Мар'яны павінны быць рысы славутых жанчынаў. Нашую Рэспубліку хутчэй могуць сымбалізаваць жанчыны-вучоныя, пісьменьніцы, эканамісткі».

Але новай Мар'янаю стала Летыцыя Каста, юная акторка й супэрмадэль. Яна толькі што зьнялася ў кіно пра старажытных галаў і стала рэклямуе ніжнюю жаночую бялізну (прычым добра рэклямуе). Каста набрала 36% галасоў. На запыт журналістаў, што яна адчувае, стаўшы ўвасабленьнем Свабоды, Роўнасьці й Братэрства, яна адказала: «Гэта крута!» Патрысія Каас набрала толькі 16%. Манумэнт, зьлеплены з новай Мар'яны, будзе выстаўлены 23 лістапада на кангрэсе асацыяцыі французскіх мэраў у парыскай Ратушы. А з новага году выявы гэтае дзяўчыны ўпрыгожаць усе дзяржаўныя паперы й знакі Францыі.

Ну, а жыхарам нашае Рэспублікі галава не баліць. Усе й так ведаюць, хто ў нас нацыянальны сымбаль.

**С. Х.**





# НЯБАЧНЫ МУР



«Народ узьнёс голас свой і зайгралі трубы, і муры распаліся...» — напісана ў Бібліі. Шлях да разбурэньня вонкавых і нутраных муроў у імя свабодных думаньня і слова хацелі паказаць ініцыятары менскага Міжнароднага спатканьня бардаў 9–10 кастрычніка.

Два дні ў памяшканьні Тэатру-лябараторыі беларускай драматургіі «Вольная Сцэна» прадстаўнікі нямецкай, польскай і беларускай аўтарскай песьні гаварылі з аўдыторыяй пра Чалавека, ягоную волю і каханьне, ягоны шлях да свабоды. Вядучы імпрэзы, галоўны рэдактар часопіса «Спадчына» Вячаслаў Ракіцкі, падкрэсьліў, што спатканьне бардаў у Менску прысьвечанае 10-м угодкам падзеньня Бэрлінскага муру, які шмат гадоў быў сымбалем разьяднанай Эўропы. Зьнішчэньне гэтага муру ня толькі адзначыла канец эпохі камуністычнай дыктатуры на нашым кантынэнце, але і ўвасобіла пачатак новых дачыненьняў паміж краінамі і людзьмі. Дачыненьняў, пабудаваных не на канфрантацыі, а на паразуменьні. У Беларусі сустрэліся барды з трох краінаў былога «сацыялістычнага лягеру» — зь Беларусі, Польшчы і Ўсходняй Нямеччыны. Віктар Шалкевіч, Алесь Камоцкі, Шыман Зыховіч і Дытэр Калька сьпявалі пра тое, што адбылося за апошнія дзесяцігодзьдзе, пра сябе тады і цяпер.

Дарэчы, відаць, з-за ўдзелу аўтара жорсткіх афарызмаў «хамская ўлада» і «жлобская нацыя» Віктара Шалкевіча, дырэктара тэатру Валер'я Мазынскага выклікалі ў Міністэрства культуры і цікавіліся сэнсам мерапрыемства пад таямнічым назовам «Нябачны мур». Як расказваў арганізатар імпрэзы Вацлаў Арэшка, у Міністэрстве культуры нават папрасілі прадставіць тэксты песень...

*Нашыя замежныя госьці ўпершыню ў Менску. Упершыню «па гэты бок Бугу». Нямецкі бард Дытэр Калька, 42 гады, нарадзіўся ў Альтэнбургу, Усходняя Нямеччына. З палітычных прычынаў быў выгнаны з унівэрсытэту, працаваў машыністам, брамнікам, даглядаў паджылых людзей. Аўтар пяці ўласных сьпеўных праграмаў, трох кніг, дзьвюхмоўнай нямецка-польскай анталёгіі. У Менску камунікаваўся пераважна па-польску (Дытэр у 1998 годзе ўзяў шлюб з польскай аўтаркай казак Агнешкай Хайпэ). Першае ўражаньне ад Менску — шэры горад.*

**«НН»: Вось так адразу — шэры? Можа, таму што восень?**

**Дытэр Калька:** Не. Раней я чуў ад розных людзей, што ў часе другой сусьветнай вайны Менск быў разбураны. Калі я гуляў па горадзе, дык упэўніўся, што Менск вельмі рацыянальна забудаваны, у ягонай архітэктуры адчуваецца ўплыў палітыкі. А каб зьмяніўся горад, трэба, каб зьмянілася дзяржава.

**«НН»: Чым для Вас быў Бэрлінскі мур?**

Д.К.: Гэта быў ня толькі мур у Бэрліне. Уся мяжа зь іншым сьветам — сацыялістычным, капіталістычным – была мурам. Мая маці, немка, нарадзілася недалёка ад Карлавых Вараў. Мур падзяліў нашых сваякоў. Мае дзядзькі былі немцамі. Але ўжо іншымі немцамі. Як і мы доўга былі іншымі немцамі. Мне было гадоў 5, а я ўжо адчуваў, што гэта непарадак. Калі настаўнік сіліўся гаварыць нешта пра камунізм, я бачыў, што ён хлусіць. Самым цяжкім было — пераэжываць хлусьню. І ведаць, што па іншы бок хадзіць нельга.

**«НН»: Мне здаецца, беларусы пакуль не пазбаўленыя ані вонкавага, ані нутранога муру...**

Д.К.: Так было і ў Нямеччыне. Мур у Бэрліне і Мур на сэрцы. Нядаўна чытаў артыкул «Пяты цэнзар». Гэта такая сыстэма, калі цэнзар ужо засеў у тваёй галаве і ў тваім сэрцы. Натуральнае адчуваньне: так рабіць нельга, так гаварыць нельга, так нельга думаць.

**«НН»: Нямеччына — вольная. Польшча — вольная. Беларусь — не зусім. Як Вам бачыцца такая мапа Эўропы?**

Д.К.: Для мяне гэта вяртаньне ў камуністычныя часы. Я быў у Літве, блізка расейскай мяжы. Дык у краме за літоўскай мяжой на паліцах было пуста. І такі тып прадаўца... У нас таксама гэта было: «Нічога ня маю, але я моцны і горды». Але калі я бачу вашых маладых людзей, як яны апранутыя, як яны сьмяюцца — эўрапейская моладзь. Адразу відаць, што яна хоча жыць у іншым сьвеце. І так будзе. Ня ведаю, ці хутка.

**«НН»: Пра што Вы, спадар Дытэр, сьпявалі тады і цяпер?**

Д.К.: Пра свабоду й Бацькаўшчыну:

*Мая Бацькаўшчына*
*Як раніца эпох*
*Мая скура праштэмпэляваная*
*Як татуіроўка*
*Якую нельга адмыць*

*Мая Бацькаўшчына*
*Там дзе я не магу знайсьці бацькі*
*Таму выразаю на ліпе:*
*Тут сядзеў я*
*Тут сядзеў я*

Пад час менскага канцэрту Дытэр прасьпяваў адмыслова напісаную песьню пра тое, што чалавек нараджаецца свабодным. А на разьвітаньне нямецкі бард Дытэр Калька не суцешыў яшчэ раз: «Паўсюль у сьвеце дыктатура была пераможаная. Піначат ужо год чакае прысуду. Часы дыктатуры прайшлі».

*Бард з Польшчы Шыман Зыховіч, які працуе ў слынным кракаўскім кабарэ «Піўніца пад баранамі» прызнаўся, што для яго гэта вялікі гонар — браць удзел у Міжнародным спатканьні бардаў у Менску. Найбольшую сымпатыю ў публікі выклікаў менавіта Шыман.*

**«НН»: Мы жывем так блізка, а Вы тут першы раз. Як уражаньні?**

**Шыман Зыховіч:** Мне вельмі падабаецца ваш горад. Вельмі падабаецца. Па-другое, заўсёды хацеў перасякчы ўсходнюю мяжу. Нават два месяцы назад пад час вакацыяў спрабаваў пераплысьці Буг. Аднак там быў вір. Як артыст, я павінен увесь час папаўняць свой досьвед. Я езьдзіў у Парыж сьпяваць у мэтро, часта выступаю ў турмах. Польскіх. Ваша архітэктура! Хіба яе будавалі ваенныя немцы? Тут столькі гісторыі... Да таго ж беларусы прыгожа сьпяваюць.

**«НН»: Чаму Вы не закранулі палітыкі пад час выступу?**

Ш.З.: За камуністычным часам у Польшчы я, малады чалавек, змагаўся за свабоду. Шмат хто сьпяваў пра волю. Пасьля мур быў разбураны, і трэ было проста жыць. Людзі кахалі, ненавідзелі, садзілі дрэвы і спазнавалі сьвет. І пра гэта трэба было сьпяваць.

**«НН»: Мур палітычны быў зруйнаваны. Ці не паўстае новы мур у душах і галовах палякаў?**

Ш.З.: Ён быў заўсёды і заўсёды будзе. Многія людзі не знайшлі сябе ў гэтым жыцьці. Ня могуць даць рады. Страцілі вельмі шмат, змагаючыся за свабоду. Страцілі непаўторнасьць культуры. У цяперашняй культуры шмат фальшывага. І гэта нябачны мур. Калі быў Бэрлінскі мур, можна было быць «за» ці «супраць». Цяпер невядома, за што быць «за» і калі быць «супраць».

**«НН»: Вы пішаце вершы...**

Ш.З.: Мая любімая пара году — восень. Верш пра восень:

*Восень, лісьце і колеры*
*Неба чыстае. Мары дзіўныя*
*Ёсьць настрой. І каштан на зямлі*
*Расколаты на дзьве часткі*

*Сягнуць неба — дык замала*
*Вышэй, далей у прастору*
*Дзе відаць туманы ў срэбры*
*У каханьні снуць амоpы*
*Лісьця восеньскага колер*

Нашым госьцям вельмі спадабалася менская публіка, менскія культурныя героі — старыя і новыя сябры. У менскай рэстарацыі «Ракаўскі Бровар» разнамоўная бардаўская кампанія так уразіла наведнікаў, што праз афіцыянтаў нехта перадаў для іх шампанскага. Праз 10 гадоў пасьля падзеньня Бэрлінскага муру ў сталіцы Нямеччыны ўзьвялі шакалядны мур. Хто хацеў, еў. Беларусь надалей аддзеленая ад Эўропы мурам. Нябачным.

**Вольга Караткевіч**

каляндар

## ПЯЦЬДЗЯСЯТ ГАДОЎ ТАМУ

1949 год. Пяць гадоў, як сышлі немцы. Савецкая Беларусь сьвяткуе сваё трыццацігодзьдзе і дзесяцігодзьдзе «ўзьяднаньня» зь Беларусяй Заходняй. Ідзе аднаўленьне разбуранай у вайну гаспадаркі. Выконваецца пастанова савету міністраў СССР «Аб мерах дапамогі сельскай гаспадарцы Беларускай ССР у 1949 годзе». Берасьцейскаму пэдагагічнаму інстытуту прысвойваюць імя А.Пушкіна, а Янка Брыль выдае зборнік апавяданьняў «Верасьнёвая рунь»...

Па лясах гойсаюць аддзелы НКВД у пошуках «бандыцкіх элемэнтаў». Другі год, як сядзяць у ГУЛАГу сябры Беларускага Саюзу Патрыётаў і падпольнай арганізацыі «Чайка». Гулагавец Рыгор Клімовіч, будучы кіраўнік Нарыльскага паўстаньня, атрымлівае чарговыя дзесяць гадоў зьняволеньня за пісаньне антысталінскіх вершаў. Янку Скрыгана садзяць у ГУЛАГ на 15 гадоў...

Ніхто сабе нават уявіць ня можа, што «сталінскай эпосе» можа прыйсьці канец. Але шмат хто верыць у працяг вайны. Гэтым разам Заходу і Савету. У 1949-м Кангрэс ЗША прымае закон аб стварэньні радыёстанцыяў «Голас Амэрыкі», «Свабода», «Свабодная Эўропа»... Тыя інтэрнаваныя з СССР, што знаходзяцца ў Нямеччыне ў акупацыйнай зоне заходніх саюзьнікаў, атрымоўваюць права на эміграцыю ў вольны сьвет. На амэрыканскіх базах распрацоўваюцца пляны па закідцы на тэрыторыю Беларусі добраахвотнікаў, якія мусяць ажыцьцяўляць разьведку для будучых вызвольных войскаў... Ім здаецца, што ўсё наперадзе, што савецкая сыстэма хутка «загнецца».

«Чырвоная» пляма на мапе Зямлі павялічваецца. 1 кастрычніка Кітай абвяшчае аб стварэньні Народнай Рэспублікі і сваёй сацыялістычнай «арыентацыі». 7 кастрычніка абвяшчаецца стварэньне Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі.

Нараджаліся дзеткі пасьляваеннага бэбі-буму, сярод якіх Генадзь Карпенка (17.9.1949)...

Да пачатку амністыі для «палітычных» ГУЛАГаўцаў, якая супала з уварваньнем савецкіх танкаў у Будапэшт, застаецца сем гадоў, да палёту ў космас першага чалавека — дваццаць два, да падзеньня Бэрлінскага муру — доўгіх сорак.

**Севярын Квяткоўскі**

кроніка гаспадарчая

***Трывожная атмасфэра пасля справаздачы 8 кастрычніка ўраду перад Аляксандрам Лукашэнкам усталявалася ў асяродзьдзі прыватных прадпрымальнікаў Беларусі. Нагадаем, Лукашэнка ў сваёй прамове выказаў вострае незадавальненьне дзеяньнямі віцэ-прэм'ера Генадзя Навіцкага, які ў часе перамоваў з прадстаўнікамі дробнага бізнэсу нібыта незаконна адмяніў патрабаваньні аднаго з дэкрэтаў.***

Учорашняя прамова Лукашэнкі мела панічнае ўзьдзеяньне на гандляроў беларускіх рэчавых кірмашоў. Як паведамілі нам у прадпрымальніцкім прафсаюзным зьвязе «Садружнасьць», многія гандляры цяпер задаюць сабе пытаньне: выходзіць на працу ці не? Гэтая няпэўнасьць выклікаецца страхам перад магчымай канфіскацыяй тавараў. Не хаваюць сваёй разгубленасьці й лідэры прафсаюзных зьвязаў. Нарада віцэ-прэм'ера Навіцкага з лідэрамі дробных прадпрымальнікаў адбылася 8 верасьня. На ёй абмяркоўвалася канфліктавая сытуацыя паміж уладамі й прадпрымальнікамі.

Беларускія «чаўнакі» пагражалі страйкамі, калі ня будзе ануляванае палажэньне аднаго з дэкрэтаў Лукашэнкі, якое дазваляла праваахоўным органам сканфіскоўваць тавары на гандлёвых кірмашах. Каб прадухіліць страйкі, віцэ-прэм'ер ад імя ўрадаў падпісаў пратакол перамоваў з прадпрымальнікамі, паводле якога пагроза канфіскацыі рэчаў зьменшылася. У прыватнасьці, дамоўленасьцямі прадугледжвалася, што міліцыянты й прадстаўнікі падатковых органаў ня будуць патрабаваць у гандляроў наяўнасьці дакумэнтаў, якіх часам немагчыма атрымаць ад пастаўшчыкоў тавараў.

Адзін з удзельнікаў згаданых перамоваў зь віцэ-прэм'ерам, кіраўнік арганізацыі прафсаюзнага зьвязу «Садружнасьць» у сталічным рэгіёне Віктар Вяржбіцкі, камэнтуючы сёньняшнюю сытуацыю, шчыра прызнаўся, што ня ведае, які лёс чакае дамоўленасьці з урадам і што ў гэтай сувязі раіць сябрам прафсаюзнага зьвязу. Рэч у тым, што згаданыя дамоўленасьці, сапраўды, супярэчаць дэкрэту Лукашэнкі, у якім канфіскацыйныя мэтады разглядаюцца як вельмі эфэктыўныя.

Пакуль што невядома, як будуць паводзіць сябе пасьля крытыкі Лукашэнкі выканаўчыя структуры. Напрыклад, у міністэрства прадпрымальніцтва ды інвэстыцыяў, якое кантралюе дзейнасьць айчыннага дробнага бізнэсу, аніякіх дырэктываў на гэты конт яшчэ ня паступала.

***Дзяржава ўпершыню гатовая пайсьці на тое, каб адключаць цяпло ў некаторых установах, якія маюць запазычанасьць за энэрганосьбіты. Такое рашэнне цяпер разглядаецца Менскім гарвыканкамам.***

Аляксандар Лукашэнка неаднаразова абяцаў, што ўзімку ў кватэрах беларусаў будзе цёпла. Зіма набліжаецца, і ўсё менш упэўненасьці ў тым, што кіраўніцтва краіны здолее выканаць гэтыя абяцаньні. Пра адключэньне цяпла ў кватэрах гаворка пакуль ня йдзе. Аднак становіцца відавочным, што наўрад ці ўдасца забясьпечыць палівам шматлікія прадпрыемствы і ўстановы. Найперш размова йдзе пра тыя ўстановы, у якіх вялікія запазычанасьці за энэрганосьбіты. Толькі ў Менску запазычанасьць установаў і прадпрыемстваў за газ складае каля 9 трыльёнаў рублёў, за электраэнэргію — каля 2 трыльёнаў. Выканкам ня мае сродкаў на тое, каб забясьпечваць дзяржаўныя ўстановы палівам у крэдыт. Да таго ж, ніхто ня можа гарантаваць, што яны змогуць вярнуць пазыку.

Сярод найбольшых даўжнікоў вылучаецца аб'яднаньне «Менскэнэрга», якому ў сваю чаргу вінныя шматлікія менскія вытворчыя прадпрыемствы. Ня плацяць за энэрганосьбіты і многія навучальныя ўстановы, сярод якіх Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, запазычанасьць якога складае 71 мільярд рублёў, і Політэхнічная акадэмія, якая вінаватая 22 мільярды. Нельга выключаць, што гэтую зіму студэнтам давядзецца вучыцца ў халодных аўдыторыях.

Не даводзіцца казаць пра нейкія злыя намеры з боку мясцовых уладаў. Менск проста ня мае паліва, таму што на яго закуп не хапіла грошай. Напрыклад, у сярэдзіне верасьня запас паліва складаў каля чвэрці таго, што трэ было назапасіць да пачатку кастрычніка. Наўрад ці на сёньня сытуацыя значна палепшылася. Сытуацыя ў іншых беларускіх рэгіёнах яшчэ горшая.

Таго, што становішча значна пагоршылася, ня могуць не прызнаць і ўлады. Напрыклад газэта «*Советская Белоруссия*» зьмясьціла на мінулым тыдні графік, які сьведчыць, што некаторыя нафтапрадукты ў Беларусі даражэйшыя, чым у суседніх краінах. Да прыкладу, бэнзін маркі АІ-95 у нашай краіне даражэйшы, чым у Расеі, Літве і Украіне.

**Агляд падрыхтаваў Зьміцер Снапкоўскі**



Фота Валянціна Стэфановіча





**Справа:** «Жалезныя Ваўкі» пасьля турніру ў Троках

**Зьлева:** каранацыя Міндоўга ў Ковенскім замку



Фота Марыны Сідаровіч

***Напрыканцы жніўня чакалася правядзеньне чарговага рыцарскага фэстывалю ў Мірскім замку, на які раней зьяжджаліся прадстаўнікі многіх клюбаў зь Беларусі й Расеі й звычайныя аматары незвычайных відовішчаў. Пасьля правядзеньне імпрэзы перанесьлі на пачатак кастрычніка, пасьля высьветлілася, што сёлета фэстываль праводзіцца ўвогуле ня будзе. Паводле нашых зьвестак, адміністрацыя Мірскага замку запатрабавала ад галоўнага арганізатара Зьмітра Нісьцюка, комтура «Ordo Templi Borialis» (былога ордэну «Сэрца Дракона»), 5000 даляраў. Нісьцюк, быццам бы, трох тысячаў яшчэ б не пашкадаваў, але столькі... Сам жа спадар Зьміцер паведаміў толькі, што ў яго папрасілі велічэзны хабар. Пракамэнтаваць сытуацыю і распавесьці ўвогуле пра стан рыцарскага руху ў Беларусі мы папрасілі Арыну Вячорку, кіраўніцу «рыцараў ВКЛ».***

Анатоль ПРАСАЛОВІЧ

# НА РЫЦАРСКІМ ФРОНЦЕ НЕ БЕЗЬ ПЕРАМЕНАЎ

На думку спадарыні Арыны, сёлетняе фіяска зь Мірам — вялікая страта для ўсіх заўзятараў вайсковай старасьвеччыны, аднак яна лічыць, што Зьміцер Нісьцюк, цесна зьвязаны з Масквой, адкуль атрымлівае фінансавае падмацаваньне, ня мае маральнага права арганізоўваць у беларускіх нацыянальных сьвятынях падобных фэстываляў (хоць ён і майстра ствараць кічавыя шоў), бо маладзёны з Расеі не выказвалі ў мінулыя гады ніякай павагі да помніка, і кожны зь іх імкнуўся ляснуць сваім зусім ня цацачным мечыкам то па браме, то па муры, ня кажучы ўжо пра ператварэньне замку ў грамадзкую прыбіральню пасьля добрых такіх папоек. Ува ўсім сьвеце, зазвычай, для рыцарскіх турніраў узводзяцца адмысловыя збудаваньні, дзе можна бясьпечна праводзіць мерапрыемствы такога кшталту без загрозы пазбаўленьня нашчадкаў гістарычнай спадчыны. Спадарыня Вячорка пляную налета зьвярнуцца ў Міністэрства культуры па дапамогу ў справе правядзеньня фэстывалю, у якім возьмуць удзел клюбы, што з пашанай ставяцца да свайго краю і яго мінуўшчыны. А Нісьцюк, маўляў, няхай арганізуе свае «расейска-беларускія фэстывалі», як ягоны «Белы замак», што праводзіцца ў лютым у менскім Палацы Моладзі.

У апошнія часы рыцарскі рух моцна пашырыўся: тут табе і гістарычна-рэканструктыўныя клюбы, і вайскова-гістарычныя, і містычныя, і талкінісцкія. Сьведама беларускіх няшмат, але можна адзначыць магілёўскі «Барысфэн», наваполацкі «Жалезны воўк», полацкі «Чорны Война», невялічкі клюб у Горадні. Нягледзячы на ўсплёск папулярнасьці, рыцары краіны перажываюць не найлепшыя часіны. Асноўная праблема — безумоўна, грошы. Каб нейк выкараскацца, клюбы павінны самі зарабляць сабе на жыцьцё. З аднаго боку, пэўны прыбытак прыносіць удзел у спаборніцтвах, дзе за адзін двубой латнік можа атрымаць ад 10 да 20 даляраў, суму, якая цалкам ідзе на трэніроўкі. Мала хто са звычайных абываталяў наважыцца, нават за вялікшыя грошы, усьцягнуць на сябе ў холад ці сьпёку 50 кіляграмаў жалезьзя ды яшчэ й памахаць у набліжанай да рэальнасьці бойцы цяжэнным двуручным мячом даўжынёй у чалавечы рост. Іншы сродак фінансаваньня — выраб баярскіх аксэсуараў: шаломаў, кальчугаў, мячоў, шчытоў. Сёньня гаворка можа ісьці пра своеасаблівую галіну індустрыі, сярэднявечны ВПК. Некаторыя клюбы вывешваюць на ўваходзе прайс-лісты ўзбраеньняў, як, прыкладам, у клюбе, які ачольвае абазнаны майстра Фёдар Міхееў, дзе, са словаў Арыны Вячоркі, нічога не каштуе таньней за 50–70 даляраў.

Іншыя ж рыцары, якім шляхецкая годнасьць або адпаведная кан'юнктура не дазваляюць займацца камэрцыяй, часьцяком вымушаныя калябараваць зь дзяржавай ці прынамсі са спараджэньнем сыстэмы — БПСМам, як у рэчыцкім клюбе ралявога мадэляваньня, у адным з гомельскіх гістарычных клюбаў. Прыйшлі нейк «патрыёты» і ў Вячоркаў Беларускі Рыцарскі Клюб (БРК) з прапановай «прадаставіць крышу», але, убачыўшы харугвы з «Пагоняй», мусілі завярнуць лыжы.

Да таго ж, кажа спадарыня Арына, па ўказцы Лукашэнкі ўлады пачалі жорстка трэсьці клюбы з прычыны наяўнасьці ў іх халоднай зброі: мячоў ды булаваў. Адзінае выйсьце — тэрміновая рэгістрацыя зброі і атрыманьне ліцэнзіяў, што, у прынцыпе, здымае пэўныя праблемы пры вывазе рыштунку за мяжу. Ізноў не рэалізаваліся сёлета кволыя спробы рыцарскага яднаньня, а некаторыя суполкі ўвогуле зьніклі.

У БРК таксама досыць праблемаў. Ня так даўно ў ім адбыўся раскол, харугвы распаліся на самастойныя суполкі, частка вярнулася да скандынаўскае міталёгіі, прычым сваімі ідаламі яны абвесьцілі зусім не рахманых багоў, а самых ваяўнічых. Дарма што яны адкалоліся ад ВКЛаўцаў, яны яшчэ й пазбавілі БРК памяшканьня, неабходнага для трэніровак, выкарыстоўваючы антыбеларускія настроі кіраўніцтва Партызанскага дому моладзі. Але жыцьцё не стаіць на месцы, сёлета нашыя лыцары езьдзілі на рыцарскія фэсты ў Літву — Коўна, Трокі ды Вільню, — дзе на пачатку ліпеня адзначалі ўгодкі каранаваньня Міндоўга. Менавіта зь летувісамі падтрымліваюцца найцясьнейшыя кантакты, бо з палякамі нешта ня ладзіцца, а добрыя чэхі далекавата. Цікава, што існуюць дачыненьні і з адным маскоўскім клюбам, у якім расейцы займаюцца рэканструкцыяй узбраеньня вяроў Вялікага Княства.

Натхнёная падарожжам у Літву, Арына Вячорка хоча ўзнавіць справядлівасьць і ў наступным годзе узяць удзел у адзначэньні гадавіны каранацыі Міндоўга ў Навагрaдку (дарэчы, летувісы арганізавалі з гэтай нагоды фэст і ў Крэўскім замку). У ліпені ж БРК здолеў адзначыць у Менску невялічкую Пагоню на Грунвальд на Гарадзкім вале, у жніўні Ігар Міхно вазіў беларускіх рыцараў у Чэхію, а ўгодкі Аршанскай бітвы былі адсьвяткаваныя турнірам у Горадні.

Але спадарыня Арына лічыць, што год прайшоў няўдала, бо патрэбныя новыя ідэі (адна зь іх — стварэньне беларускага клюбу каскадэраў) і людзі. Тых юнакоў і дзяўчатаў, якія хочуць далучыцца да нацыянальнага рыцарскага руху, а ў наступным годзе паўдзельнічаць, паміж іншым, у фэстывалі на Грунвальдзкім полі, Арына запрашае далучыцца да БРК. Узрост — ад 16 да 20 гадоў. Меншыя ж дзеткі запрашаюцца у Беларускую Рыцарскую Школу, нешта накшталт шляхецкага калегіюму. Тэлефон для кантактаў: 283-48-31, 263-99-90 (Марына Астроўская). ■

## «КРУПІЦКІЯ МУЗЫКІ». (р) «Ковчег», 1999.




Я так разумею: станаўленьне неаднойчы згаданага ўжо шоўбізнэсу ў блакітнавокай Беларусі без складанасьцяў не абыходзіцца. Проста ўсе мы — выканаўцы, выдаўцы ды вечна незадаволеныя рэцэнзэнты — усё яшчэ шукаем, як той бізнэс рабіць. І без памылак і перакосаў рэдка калі выходзім з самых розных сытуацыяў (гэта — у парадку самакрытыкі).

Вось і на гэтай касэце выдавец нешта такое дужа арыгінальнае ўмудрыў. На ўкладцы альбому, які, трэба думаць, разьлічаны найперш на заходні рынак (сьцеражыцеся, тамтэйшыя акулы!), зьлева назвы песень надрукаваныя па-ангельску, справа — па-нашаму. Чытаем і ўсё разумеем, мы і Захад. Калі напісана аптымістычна *«My Darling Is Dead»*, дык тое цалкам адпавядае назьве *«Мой Міленькі Памёр»*. Калі зьлева пазначана *«Why Are You So Bald?»*, дык справа высьвятляем: *«А Чаму Ж Ты Лысы?»* Толькі вось знайдзіце ў якой акадэмічнай граматыцы беларускай мовы тыя выняткі з правілаў, згодна зь якімі ўсе словы ў назьве песьні трэ пісаць зь вялікіх літар!

А, мы далучаемся да Эўропы. Інтэгруемся з ангельскаю моваю. Ці ёсьць any questions?

Касэта, між іншым, вартая ўвагі. Музыкі з village Krupitsy граюць ды сьпяваюць з даволі адчувальнай на чужой скуры энэргетыкай, заўзята ды самааддана. Тут няма халоднай адчужанасьці ад музычнага матэрыялу, якой часьцей за ўсё патыхае творчасьць многіх прафэсійных калектываў народнае арыентацыі. Запісаная (прычым даволі якасна) музыка разнастайная па характары і зьмесьце, хоць пры гэтым і можна казаць, што ў цэлым рэпэртуар усё ж прыкметна адаптаваны для патрэбаў сцэны. Прычым ня толькі айчыннай. Гэта ўжо няхай спэцыялісты разьбіраюцца, чаго больш у творчасьці «Крупіцкіх музыкаў» — стылізацыі народнае спадчыны ці аўтэнтыкі. Мяне тое ня надта хвалюе, прабачце. Замежных слухачоў тым больш. Яны ацэньваюць перш-наперш прафэсіяналізм ды ўменьне паказаць са сцэны тое, на што выканаўцы здольныя.

Творчасьць «Крупіцкіх музыкаў» не выклікае ўражаньня штучнасьці зробленага. Выканаўцы застаюцца самі сабой.

**Менскі Слухач**

## «МАРУСЯ». Група «ALLABAMA». (р) «Ковчег», 1998.




Як можна здагадацца, гэты студыйны, спадзяюся, праект вынайшаў і сагрэў на трапяткім сэрцы Дзіма Карабач — той самы Дзіма, што зьяўляецца, бадай, самай непрыкметнаю ды сьціплаю постацьцю ў групе «Палац». І калі даваць волю фантазіі ды згадкам, удзельнікамі праекту маглі стаць студэнты Унівэрсытэту культуры. Нашага, між іншым, не алабамскага, бо ўявіць сабе такую колькасьць студэнтаў зь беларускімі ды іншымі славянскімі прозьвішчамі ў амэрыканскім унівэрсытэце пакуль не дазваляюць нат самыя сьмелыя мары.

Увогуле, задума была такая ж нахабная, як і ўдзячная: паспрабаваць стварыць на заходні манер узоры айчыннай музыкі, прыдатныя да скокаў у санкцыянаваных гарвыканкамам месцах масавага збору прадстаўнікоў прагрэсіўнае ды перадавое моладзі — у дыскатэках. Такой музыкі ў Беларусі амаль няма. На жаль і на шчасьце — адначасова. На жаль таму, што наш мэнталітэт у галіне музыкі грунтуецца на камсамольскіх песьнях айчыннага Элтана Джона — Ігара Л-ка. На шчасьце таму, што хопіць узораў музычнае брыдоты ў нашага ўсходняга суседа. Вось чаму Дзіму Карабача ўлады Алабамы (з адным «л») маглі б ушанаваць якім бронзавым бюстам: за дасягненьні ў галіне прапаганды таго, чаго ў нас няма.

Калі б усе восем кампазыцыяў альбому былі вытрыманыя на ўзроўні загалоўнай *«Марусі»*, я першы асабіста зьвярнуўся б да губэрнатара амэрыканскага штату з пэтыцыяй ад імя ўсхваляваных грамадзянаў Беларусі зрабіць для Дзімы ну хоць нештачкі. Хоць грамадзянства якое. Бо *«Маруся»* — гэта сплаў дасьціпнай выдумкі і тонка прадуманага аранжаваньня, якая дазваляе спалучацца мэлёдыям канкану і беларускага савецкага гімну. І ўсё гэта — у рамках даўно вядомай і папулярнай «Маруся, раз, два, тры!» Сапраўды, файны нумар, які ў свой час напэўна б павёў за сабой рабоў з плянтацыяў Алабамы на штурм якога палацу бледнаскурых.

Далей вось, на жаль, горш. І калі на ня вельмі выразныя мэлёдыі, іх нейкае пасьпешлівае вырашэньне яшчэ можна б было заплюшчыць вочы і зацiснуць вушы (хоць на нашым, алабамскім, фоне яны — далёка ня самае горшае), дык вось вакальная манера салістак у свой час прымусіла б, напэўна, гаспадароў тых палацаў у Алабаме скіравацца ў бок плянтацыяў і перабіць усіх, хто там трапіцца на вочы. Ну, калі нашы мілыя унівэрсытэцка-культурныя дзяўчаты пачынаюць адчайна ўдаваць кожная Глорыю Гейнар ці, крый Божа, — Уітні Х'юстан, дык гучыць тое прыблізна гэтак жа сама, як «Ой, пайду я ў новую канюшню» ў выкананьні народнага гурта «The Texas Cowboys».

Ёсьць такая штука: арганіка. Ня тая, што на палеткі вывозяць, а тая, што датычыць мастацтва; ня тая, якой заслужаныя артысты гатовыя палівадь братоў па цэху, а тая, якая праводзіць тлустую рысу паміж натуральнасьцю і штучнасьцю.

Дык вось: сьпяваюць «алабамскія» салісткі адчайна арганічна. А з-за гэтага іх галасы гучаць ці не фальшыва. Калі б яшчэ Дзіма Карабач адшукаў вакалістак з сапраўды «чорнымі» галасамі, здольнымі на імітацыю «чужой нашаму грамадзтву» манеры. Не! Выхаваныя на ўзорах расейскага «блін канту» тыпу галасістай Крысі Арбакайтэ, дзяўчаты афарбаваць у «чорнае» ўласныя галасы проста ня могуць. «Белы» ж голас на фоне абранай музычнай стылістыкі гучыць гэтак жа натуральна, як сьпевы праваслаўнага бацюшкі ў пратэстанцкім храме.

А ўсё ж за сьмеласьць і экспэрымэнт бронзавы бюст Дзіму Карабачу адліць за акіянам можна было б. *«Love U Crazy»* — менавіта так надрукаваная на ўкладцы назва аднае зь песень. Ім, амэрыканцам, ніколі не зразумець шырыні адчайнай, разьняволенай славянскай душы, якая калі любіць мэлёдыі замежнай эстрады, дык ужо не зважаючы ні на што!

Аж да вар'яцтва!

**Слухач з Аллабамы**

## «GOLDEN HIT». Nikolai SKORIKOV. (р) «Ковчег», 1999.




Які прыгожы мужчына якія прыгожыя песьні сьпявае якім прыгожым голасам!

Аднойчы, едучы ў аўтобусе, пачуў Nikolai Skorikov у дынаміку, дык так заслухаўся, што лішні кавал дарогі праехаў. Ну, чысты Энды Ўільямс ці нават Фрэнк Сінатра! Гэта пры тым, што Nikolai Skorikov, у адрозьненьне хіба ад Уільямса ці нават Сынатры, прайшоў у свой час першы тур праслухоўваньня ў «Нью-Ёрк Опэры». А дзе яму яшчэ сьпяваць з такім магутным, аксамітным барытонам, як не ў нью-ёрскай опэры! Але радзіме патрыёт ня здрадзіў! Сьпявае цяпер у аркестры Фінберга — прафэсара, народнага, ляўрэата ды інш., пра што на кожным канцэрце вядучыя папярэджваюць ня менш за дзесяць разоў. І ўсе ўсхвалявана пляскаюць у далоні...

Горача належыць пляскаць і Nikolai-ю Skorikov-у. Бо касэта сапраўды таго вартая. Запісана яна была (рэдкі ў практыцы нашага шоў-бізнэсу выпадак!) пад час канцэрту ў Тэатры музычнае камэдыі 21 студзеня 1997 году, калі Nikolai Skorikov прадстаўляў спэцыяльную праграму з «залатых гітоў». На першым баку вельмі значнай па хранамэтражы касэты — гіты заходнія: *«My Way»*, *«Another Time, Another Place»*, *«It's Now Or Never»*, *«Spanish Eyes»* — любімыя творы нават той партнамэнклятуры, якая зацята змагалася з эстрадным касмапалітызмам. На другім баку касэты — гіты ўсходнія: *«Na Volge shirokoi»*, *«Andryusha»*, *«Luchshy gorod zemli»*, *«Chortovo koleso»*, *«Vdol po Piterskoi»*. Асалода для душы, сэрца ды вушэй!

Nikolai Skorikov робіць з тымі гітамі, што хоча. У тым сэнсе, што выконвае іх адмыслова, так, што яму можа пазайздросьціць любая заходняя ці ўсходняя зорка клясычнае эстраднае песьні. Гукарэжысэры (не згаданыя на ўкладцы) дамагліся амаль незвычайнага — добрай якасьці запісу, пры гэтым вельмі ўжо дакучліва падмешваючы шквал авацыяў у пачатку ды пры канцы кожнага гіту. Ладна спрацавала і група бэк-вакалу (не згаданыя), якую на канцэртах аркестру сп.Фінберга (бурныя воплескі, якія пераходзяць у авацыі, усе ўстаюць), як правіла, зусім не чуваць. Ды й сам аркестар гучыць годна, як мае быць — нармальны акампанэмэнт заслужанага калектыву. Салісты (не згаданыя на ўкладцы) салююць мала і дакладна. Могуць быць задаволеныя ўсе аўтары музыкі і тэкстаў (во дзіва: згаданыя!) з той нагоды, што ў Беларусі ёсьць выдатны выканаўца іх нятленак. Праўда, аўтарскіх (уладальнікі правоў, зразумела, не згаданыя) яны, я так думаю, зь Беларусі ня ўбачаць ніколі!

Можна шчыра павіншаваць Nikolai-a Skorikov-a з сапраўднай творчай удачай. Але, калі б касэта мела яшчэ й трэці бок, тады б, магчыма, сярод «Golden Hits» зьявіліся б і гіты беларускае вытворчасьці. А то неяк нават няёмка: на Захадзе гіты ёсьць, на Ўсходзе таксама, а ў нас, апрача «прыпевак хуліганцкіх ды фрывольных», Nikolai Skorikov чамусьці рэдка што паказвае. Ёсьць жа і ў беларускай эстрадзе залаты запас! Тым больш, што выдавец ці выканаўчы прадусар альбому (не згаданы на ўкладцы) чамусьці пакінулі на кожным баку касэты ладныя такія вольныя кавалкі стужкі хвілінаў па дзесяць! Вось бы сюды Nikolai-a Skorikov-a зь ягоным ручным клявішным інструмэнтам ды тымі прыпеўкамі! Той Сінатра ад зайздрасьці ажно перавярнуўся б! Бо гэтак нават ён ня ўмеў!

Не, сапраўды, клас! Касэта афармленая як мае быць: усе надпісы — на мове верагоднага эстраднага працаўніка. Я пакуль зразумеў, што азначае назва *«Shto tak serdtse rastrevozheno?»*, дык ледзь кардыялёгію знаёмую не праехаў! Я вам скажу: знаходка! Фірма ва ўсім! Live sound — гэта крута зусім! Толькі чаму транскрыпцыя імя і прозьвішча выканаўцы зробленая з расейскай мовы — не зразумеў. Бо, ведаў, ёсьць у нас такі сьпявак Mikola Skorykau, а тут значыцца англічанін расейскага паходжаньня Nikolai Skorikov.

З тым толькі, хіба, выняткам, што гэтак, як Мікола, ня здольныя сьпяваць ні Philip Kirkorov, ні Arkadi Ukupnik, ні Aleksander Buinov, ні нават сам Boris Moiseev.

Slabo im!

**Скароны Слухач**

## Бонда. Лепшыя песьні.

### 1999, Каўчэг, 2 CD з сэрыі «Залаты фонд беларускага рок-н-ролу».

Вакаліст цяперашняй «Крамы» Ігар Варашкевіч выйшаў з залатога складу «Бонды», адтуль жа й гітарыст бліскучага і доўгатрывалага праекту «Уліс» Вячка Корань. Бубнар і тэкставік «Бонды» Сяржук Кныш грае цяпер у «Mojo Blues», а лідэр-гітарыст Янка Маркаў не бяз посьпеху рэалізуе свой праект «Little Blues Band». Толькі бондаўскі басіст Сяржук Краўчанка адышоў ад сцэны, хоць дарэшты не разьвітаўся з музыкай — займаецца музычным бізнэсам (інструмэнты, аксэсуары). Архіўны рэліз «Каўчэга» дае шанцы сабраць на старонках ягонага аб'ёмнага буклету ўсе аўтографы жывых легендаў.

*«Песьня падарожніка»*, *«Сьметнік»*, *«Тата мае рацыю»* — першыя сапраўдныя нацыянальныя рок-гіты, рытмы якіх мы выстуквалі на прыпынках у чаканьні аўтобусу. Усе яны, натуральна, трапілі ў гэты зборнік. А «*... вазьмі з сабой заплечнік, компас і бадзёрасьць духу...*» — аж двойчы, у розных аранжаваньнях і тэкставых вэрсіях.

Усяго ў праграме CD больш за тры дзясяткі трэкаў, і ў кожнага свая гісторыя: адныя пісаліся ў прэстыжных студыях кшталту перасоўнай «MCI» ад фірмы «Мэлёдыя» (*«Сьмерць на аўтастрадзе»*, *«Хлопец дурны»*, *«Ура!»*), другія — ва ўмовах студэнцкага інтэрнату на сьціплым (але чатырохканальным) магнітафоне «Fostex» (*«Дзядзька Юзік»*, *«Сьметнік»*, *«Пра суседа»*), трэція ж увогуле захаваліся ледзь ня толькі ў *live-recording*, хоць і без удзелу публікі (*«Рубікон»*, *«Кожны з нас»*, *«Раз-пораз»*), бо й слова тады «рок» было забароненае, а тут яшчэ «нацыянальны» — і яны па сотні разоў перапісваліся тагачаснай моладзьдзю адзін у аднаго. Асноўнымі захавальнікамі гэтага ўнікальнага цяпер скарбу аказаліся С.Стоцкі і М.Федарэнка, якім фірма «Каўчэг» выказала асабістую падзяку.

**Вітаўт Мартыненка**

## беларускі гіт-парад

**(ЖНІВЕНЬ-ВЕРАСЕНЬ)**

| Выканаўца | Альбом | Выдавец |
|---|---|---|
| 1. NRM | Акустычныя канцэрты канца XX стагодзьдзя | Ковчег |
| 2. Народны альбом | (супольны музычны праект) | Ковчег |
| 3. Нейро Дюбель | Охотник и сайгак | Пан-рэкардз |
| 4. NRM | Пашпарт грамадзяніна НРМ | Ковчег |
| 5. Мясцовы час | Халі-Галі | БМА |
| 6. Уліс | Блуканьне | Ковчег |
| 7. Новае Неба | Выбранае | Пан-рэкардз |
| 8. Белы Сон | Biely Son | Беласток |
| 9. Крыві | За туманам | Ковчег |
| 10. Крама | Што дапаможа нам? | Ковчег |

Радыёварыянт беларускага гіт-параду можна пачуць кожны апошні чацьвер месяца з 10.00 і кожную нядзелю з 13.30 на хвалях «Радыё-2» (Fm 70.4 Am 1197 kHz).

Штомесяц да 20-га дня дасылайце свае варыянты гіт-параду на адрас: 220085, Менск, а/с 5, — і Вы возьмеце ўдзел у конкурсе, пераможцы якога атрымаюць прызы.

Гіт-парад складзены Беларускай Музычнай Альтэрнатывай паводле продажу касэтаў і CD. Набыць ці замовіць беларускую аўдыё-, відэа- і кніжную прадукцыю можна ў наступных гарадах:

Менск — кіёск «Карона» (каля крамы «Музыка»); Варвашэні, 8; Галерэя Мастацтва (пл.Якуба Коласа); т. (017) 2490888; Маладэчна — кіёск ТБМ (чыгуначны вакзал), т. 53769 Алесь; Гомель — крама «Audio-box» (Першамайская 23); унівэрмаг «Гомель»; Віцебск —кіёскі фірмы «Саюз»; Сьветлагорск — кіёск 93 (раён рэстарана «Пралеска»); т. (02342) 27815 Сяржук; Ворша — крама «Пілёт» (Леніна, 16, т. 44893); Магілёў — студыя «Ліга», Першамайская 18 (Дунька); т. (0222) 255785; Горадня — штопанядзелак і сераду па адрасе: К.Маркса 11; т. (0152) 721183; Баранавічы — па т. (0163) 412430, 411046 (Алесь, Валадзей); Бабруйск — т. (225) 555658 (Валеры); Мар'іна Горка — т. (213) 45962; Берасьце — т. (0162) 202087, 264831, 227811; Беласток (Польшча) — 085-6616400 (Вячаслаў); праз сыстэму «Касэты — поштай». Зацікаўлены ў супрацоўніцтве па распаўсюджваньні: а/с 5, Менск, 220085; тэл.8 (017) 2490888 Віталь; E-mail: aja@cscsc.lingvo.minsk.by.



Фота Міхала Баразны.

*Алесь Пушкін. Фрагмэнт росьпісу царквы ў Бабры.*

## Алекс

***

Празрыстае паветра. Пранізьлівыя зоры.
Нябачная лістота кранае за далонь.
Мой сон — пусты асфальт. У неба колер
гора.
Бязважкі пульс стылетам працінае скронь.
Ня маю моцы быць. Ды ведаю, што буду.
Ты не са мной. Ты ў сэрцы. Ты там, дзе
я жывы.
Я буду надалей, каб не зьнікалі цуды,
І каб мы зноў адчулі пах летняе травы.

## Андрэй Аляксандраў

* * *

зіхоткая памяць
сьцякае мятнай сьлязою
па аксамітнай шчацэ
і гарыць
салёным агеньчыкам
у куточку вуснаў
якія працягваюць
шаптаць
сваю малітву што мусіць
быць
забытай

ХОКУ

1.

Моўчкі глытае
сонечнасьць чорны дракон.
Да раніцы — сьмерць.

2.

Ноч ціха паўзе
праз увесь белы сьвет
у тваіх вачох.

3.

Вецер сьлявае.
Трымцяць верхавіны дрэваў.
Зялёны экстаз.

4.

У бязглузьдзіцы
пустэльнага сьвету
ўсё мае сэнс.

5.

Гляджу ў люстэрка.
Там — цэлы сьвет, забіты
пусткаю вачэй.

* * *

Я ляжу й не забываю дыхаць.
Я ляжу і ўзгадваю сябе,
Каб забыцца зноў і плакаць ціха
У халодным, неспакойным сьне.

Мяне душыць роўнядзь шэрых сьценаў,
Што ў маёй турме стаяць мяжой.
Я шкадую, што яшчэ ня зьведаў
Чалавека, які будзе мной.

Я ў кулак зьбяру сьвятую веру.
Буду ПА-ЗА, а не ПАСЯРОД.
Уздыхну, прарву сьляпую цемру,
Лёгкія ўратуе кіслярод.

## Вольга Базылёва

***

Паўскарынкі духмянай цемры
Перасыпана зоркавай пудрай.
Поўня зноў стала круглай і мудрай,
У надвор'я скамячыла нэрвы
І схавалася з задавальненьнем
За хмурынку ў сьвяточным убраньні.
Не жадала чакаць да сьвітаньня,
Свой ліхтар патушыла імгненна.

***

З хваравітым адбіткам на твары,
У ваўнянай кашулі, месяц
Укруціўся прастуджана ў хмары
І далоньку тонкую зьвесіў,
Казытаць каб глыбокія вокны,
Што заплюшчылі зрэнкі са шкла.
Цішыня калыханкаю стогне,
Выліваецца кубак сьвятла
Зь ліхтара, заплятаецца ў цемры
Ніткай сьвежага малака.
Недзе стомлена рыпнулі дзьверы.
Сьвечка-ноч у вачах мастака.

***

А я Вашу танюткую нітку,
Дзе парвецца, зьвяжу вузлом,
І злучыўшы яе са сьвятлом,
Дожджык голаса Вашага вытку.
Той салодкі дождж - чараўнік
Палівае душы маёй кветку
Вуснаў сьвежасьцю. Непрыкметна
Ён у восеньскіх мроях зьнік.
Я ў Ваш цёмны пакой бяды
Прынясу сьлязінкі вады
І дрыготкай кропляю-сьвечкай
Асьвятляючы змрок сівы,
Загаю, што было невылечным.
Дождж у вокны пастукаў — Вы.

## Аляксей Бацюкоў

***

Між старымі абразамі
несуцешнае паленьне,
несуцешнае трымценьне,
адыходы і вяртаньні
ў сьцены сьціхлай спачывальні,
пад лістамі, над лістамі
дваццаць літар пра пазнаньне,
пра кароткія ўсьмешкі,
пра няёмкасьць і збавеньне,
надыход апошняй песьні,
стане сьветла, стане сумна,
занатуйце пра паленьне,
запішыце з маіх вуснаў.

## Дзяніс Лісейчыкаў

НОЧ

*Алене Г-ч*

Чорны геній мястэчка палюе мяне,
Ён брунатныя іклы пазногцямі точыць,
Ён міргае ў люстэрку, танцуе ў віне,
Ён залезьці ў душу мне мошкаю хоча.
Я зрываю ланцуг і кладуся на дол,
Мне так страшна, так страшна, каб хто
толькі ведаў!
Газа зь лямпы агнём зацярушвае стол,
І сьвінцовымі робяцца чэзлыя кеды.
Пралятаюць сэкунды, хвіліны, гады,
Ох, якімі ж бываюць даўжэзнымі ночы!
І струменьчык цяжкой ледзяное вады
Робіць белымі цалкам чырвоныя вочы.
Кроў на твары...
Адкуль?! Ды халера бяры!
Што тут кропля, калі я дазваньня
крывавы!
Хай нап'юцца яе бедалагі зьвяры —
Смак на чырвань такі спакушальна
трывалы.
Я ўсаджу сабе нож паміж рэбраў няўзнак,
Хай падыхаюць вольней змарнелыя грудзі.
Я б Яе сярод тысячы твараў пазнаў.
Я б Яе...
Толькі сэрца ў попельным брудзе.
І душу не адмыеш халоднай вадой.
Вінаваты. Што ж зробіш — ня здолеў
прызнацца...
Я дзе подбегам, дзе вельмі хуткай хадой
Даганяю ліхую адзнаку «13».
А расплата надыдзе. І мне ўсё адно.
Хай загіну я ў пекле — там цёпла і добра,
А ў жыцьці нават зьнічкі ў руках не відно.
Тут цямрэча і пыл. Звычка — гідкая
кобра.
Я гатовы.
Мне лёгка.
І дзе ж тая сьмерць?
Адступіла? Збаялася? — Вечная казка!
Разадраўшы каханьне, трусьлівыя чэрці
Зноў хаваюць мурло пад біблейскую
маску.
Разьвіднела.
І што? Праляцела бяда?
Ці я штосьці сьвятое пакінуў уночы?
Ці я хвораму розуму волі ня даў?
Зноўку бачу адзіныя, мілыя вочы...

***

Лямпа бітая стомлена цэдзіць сьвятло,
Разбухае паперай вар'яцкаю тэчка...
Грук у дзьверы.
— Вы хто?
— Я паэт.
— Вы паэт?
Шчыра рады! А я — Чорны Геній
Мястэчка.

## Мікола Максімаў

КРУТАЛЁТ

Мы крылатая пяхота,
Што нам сьлёка, што нам слота...
Вораг нас не праміне,
На вайне як на вайне.
Круталёт наш, круталёт,
Пад рукою кулямёт.
Змацаваны ля дзьвярэй,
Мы — удзельнікі падзей.
Вось харугва-трыкалёр,
Наш пілот на іх папёр.
Вораг едзе на «ЗІЛе»,
На вайне як на вайне.
Зброя б'е: чарга, другая,
І аб'ект гарыць, палае.
Кулямёт каля дзьвярэй.
Мы — удзельнікі падзей.

КАНЕЦ «ФЭДЭРАЦЫІ»

«Сфэры» шкло над тварам,
Аўтамат гатовы.
Прайшоў канец марам,
Марам маскалёў.
Летуцелі, каб Беларусь
Далучыць да гнілой імпэрыі,
Але нас не спыталіся,
І гэтага не хацелі мы.
Узялі ў рукі зброю мы,
Зрабілі сотні рэйдаў.
Хоць гінулі, але білі іх,
І бог нам перамогу даў.
Жаўнеры NATO ў Маскoвіі
Бяруць пад кантроль атамныя
І іншыя ракетныя комплексы,
Рэгіёны, як апантаныя,
Разьбягаюцца з-пад фэдэрацыі.
Але для расейскай дзяржаўнасьці
Ёсьць і бакі станоўчыя.
«Заходні сьвет» на радасьцях
Сьпісаў даўгі шматмільённыя.

** «Сфэра» — адмысловы шлём спэцназу.*

## Людміла Хлябоўская

***

Узрушаецца раптам душа
пасьля доўгага сну і маўчаньня:
сэрцу хочацца ўголас крычаць
аб такім незабыўным спатканьні,
калі сінь сустракаецца з чырваньню,
калі сонца цалуе зямлю,
калі песьня гучыць лебядзіная
аб адданасьці ночы дню.

## Андрусь Храпавіцкі

НЕЛІЦЭНЗІЙНЫ

Ты спужаесься
маёй неліцэнзійнасьці,
выйдзеш на вуліцу —
дрыжыкі
па сьпіне распаўзуцца,
як п'яўкі;
а трэба яшчэ згадаць
пра пачуцьцё
агіды,
якая ўспыхне лямпачкай
у тваёй сьвядомасьці.
Ты скажаш:
«Фі-і-і! Ты другаякасны
і з дрэнным перакладам,
і на табе
ніхто нават не паставіў штамп...»
Але потым падумаеш
і, прыгледзеўшыся,
прыцісьнеш да грудзей
і прашэпчаш:
«І дзякуй богу!»

ДЗЯЦІНСТВА

Я выбягаў з дому ранкам
і адчуваў подых сьцен
за маёй сьпіной.
У школе Я пазіраў на сьвет
праз ружовыя вокны
і бег дамоў па сьцяжынцы,
пратаптанай самім сабой.
Хтосьці для мяне крэсьліў
траекторыю палёту думкі,
а ранкам Я піў
утопленае ў каве сонца
і ў космасе
шукаў свае карані
і разьбіваў гранітныя сьцены.

Я ІДУ

Я іду па бясконцай дарозе,
Іду павольна — крок за крокам,
Нібы выпіў бутэльку залпам,
Нібы быў ударany токам.
Я іду насустрач ветру,
Які дзьме зь неўтаймоўнай сілай.
Мабыць, мне засталіся мэтры,
Мабыць, мне засталіся мілі.
Сонца зьзяе ўдзень, а ноччу,
Нібы вісус, стомлены месяц
Ціха лашчыць мае крокі,
Покуль золкам ня зьнікне нарэшце.
Я іду па бясконцай дарозе,
Я іду да галоўнай мэты,
Ноччу ўзгадваю дзень і сонца,
Днём узгадваю ноч і месяц.
Я іду нібы чужаніца,
Я іду нібыта да мэты,
Я іду, каб ня думаць, навошта
Я іду...

## Міхась Шупенька

КАРАГАНДЗІНСКІ ДЗЯДЗЬКА

Зусім нядаўна з Караганды
Прыехаў дзядзька. Назаўжды.
А што ён сьпіўся, а што скурыўся —
Таму прычына, што не жаніўся.
Зьеў хіба дзьвесьце
Дарослых сьвінак,
Хацеў улезьці
На аўтарынак.
Няшмат галіўся
І трохі мыўся,
Пакуль ня сьпіўся
І не скурыўся.

КАЛЫХАНКА

Чорт ляціць,
Паўзе гадзюка.
Хутка вечар —
вось дык штука.
Карабас
ды Барабас
даядаюць
ананас.
Маскалі ідуць сьцяною,
моц такую не стрымаць.
Дык схавай жа сваю зброю
ды хадзі, дурненькі, спаць.
Прыйдуць коцік
і маркоцік,
прыйдзе мякенькі
жывоцік.
Ляж хутчэй на правы бок,
каб ня сьніўся маскалёк.

## Аляксей Шыдлоўскі

***

На расьсцеленым ложку
Перад самым сьвітаньнем
Двое моўчкі сядзелі,
Змучаныя каханьнем.
Яна — з думкай пра сьмерць,
Ён — з масьлянымі вачыма.
Яны ад свайго каханьня
Пакутавалі без прычыны.
Потым усё будзе добра,
Яны забудуць пра гэта,
І з жыцьцём разьвітаньне
Для іх перастане быць мэтай.
Але гэта ўсё потым,
Гэта будзе ўжо раньнем,
А цяпер яны проста сумуюць,
Зацяжараныя каханьнем.

## літаратурны сэмінар «Варштаты»

**Надзейцы.** *Добры ліст. І добра, што сваё абуджэньне Вы ня носіце толькі ў сабе. Хочацца пісаць — пішыце! Практыка — найлепшы настаўнік. Наконт беларускіх аўдыёкасэтаў тэлефануйце ў «Варштаты» або зьвярніце ўвагу на абвесткі ў «Нашай Ніве».*

**А.Храпавіцкаму.** *Ёсьць нармальныя радкі. Але ёсьць і няўцямныя, як, прыкладам, гэтыя: «Жыцьцё — плянэта — новай — Наўцом пакідае вулей Ад болю ў пошуках волі...» Людзі цямняць, калі хочуць нешта схаваць ад іншых. А паэт — гэта дэшыфроўшчык. Ён дэшыфруе, а мы чытаем і кажам: «Як проста! І як прыгожа! Гэтак і мы маглі б...» Але ў тым і штука, што «проста» можа кожны, а проста і прыгожа — толькі паэт.*

**Штоаўторак у 19.00 — «Варштаты», тэл.: 262-92-77**

**Славамір Адамовіч**



# ГРАФІТЫСТ

Фотаздымкі Алены Адамчык

Апавяданьне

## Адам ГЛЁБУС

Графітыст выйшаў з крамы «ЛАКІ-ФАРБЫ». У кулаку ён сьціскаў гладкі балёнчык з чырвонаю нітраэмальлю. Душу Графітыста саграваў вогненнасьць колеру, што сядзіць у мэталёвым палоне.

У рэспубліцы ўсталявалася, замацавалася й квітнела дыктатура. Маляваць, пісаць, ляпіць плякаты на сьценах і платах забаранялася. За палітычны надпіс на гарадзкой прыбіральні непаўналетняга аўтара загналі ў турму на два гады.

Графітыст не хацеў трапляць за краты. Але творчы сьверб памаляваць струмянём на публічнай сьцяне быў настолькі моцны, што распрацаваўся плян акцыі й набыўся балёнік.

Дзеля маскіроўкі мастак апрануў старую куртку з шапкаю. Чаравікі абуліся зношаныя, з падрапанымі мыскамі. Вопратку меркавалася выкінуць пасьля завяршэньня справы.

Сам праект быў досыць просты: уначы выйсьці на цэнтральны мост і намаляваць на парапэце вялікі, эрэгаваны мужчынскі полавы орган. Чэлес мусіў эякуляваць крывавымі сьлязьмі. Каб падзеі адбываліся ў якой іншай сталіцы ці ў гэтай жа, але ў іншы час, акцыю можна было б прызнаць банальнай. Але манумэнтальна-момантна-імгненнае мастацтва графіці вызначаецца ўлікам асяродзьдзя й часу. Графітыст пра тое ведаў. Ён дасканала пралічыў расклад міліцыянцкіх праходак і праездак па начным мосьце. Таму намаляваў свой орган без усялякіх перашкод і праз парк кіраваўся дамоў.



Пад старымі таполямі яго і ўзялі.

Тупаносы міліцыянцкі "газон" выскачыў на алею, як з-пад зямлі. Асьляпіў мастака фарамі. Той і ачомацца не пасьпеў, як стаяў, паклаўшы рукі на сіні капот, і глядзеў на мыскі разьлезлых чаравікаў.

"Галавы не падымаць! Глядзець на зямлю!" Нямоцны, але трапны ўдар гумовага дручка прыйшоўся ў шыю.

Графітыст войкнуў, хутчэй з-за нечаканасьці, чымся ад болю.

"Чуеш ты яго, войкае!? Ты, гадзіна мурзатая, зараз у нас ня так завойкаеш. Лазіць уначы, масты розным паскудзтвам размалёўвае..."

"Не маляваў..."

Другі, мацнейшы й размашысты ўдар палкаю лёг на лапаткі.

"Слухай ты яго, не маляваў! А людзі бачылі. Людзі ўсё бачаць. І ты, мазіла брудны, маляваў, каб усе бачылі. Месца выбраў віднае, каля самага вайсковага штабу. І каб што чалавечае намаляваў, а то хер непамерны. Скаціна!" Гэтым разам чорны дручок апусьціўся на растапыраныя пальцы правай рукі.

Графітыст узвыў ад касьцяломнага болю й заскокаў вакол машыны, трасучы ў паветры пакалечанай рукою.

"Бач ты яго, скача, як на сцэне. Скачы-скачы, далёка не адскочыш!" Па гэтых словах дубінка гупнула па патыліцы. Графітыст абсеў на мокры пасьля залевы асфальт.

"Ты за ногі, я за рукі," — славянскатвары лейтэнант гукнуў да русявусага сэржанта.

Беспрытомнага Графітыста кінулі ў "газік". Ачомаўся ён на падлозе кабінэту допытаў. Лейтэнант паліваў на бяскроўны твар вадою з энкавэдысцкага графіну.

"Прачынайся, гаўнюк. А то, ведай ты яго, разьлёгся на ўвесь пакой, не прайсьці. Дзе сорам у чалавека? Культура дзе? Стаць на калені! Рукі за галаву!" Чорны бот глыбока ўеўся ў рэбры аматара начнога маляваньня.

Даводзілася падпарадкоўвацца. Апагонены вырадак не зьбіраўся спыняцца на паламанай рабрыне.

"Сьцены ў нас тоўстыя, дзьверы жалезныя, а людзі глухія. Людзі ў пагонах чуюць толькі калі начальнік гаворыць. А сягоньня за начальніка я. Значыць так. Пакуль справа да пратаколу дойдзе, пакуль там суды са штрафамі, я цябе сам адвучу паскудзіць масты ў сталіцы нашай сувэрэннай Радзімы! Хрэн, глянь ты на яго, заказытала намаляваць. Будзе табе хер ва ўсе дзіркі. Спачатку ты высмакчаш усю маю спэрму да апошняй кроплі. А потым сяржант загоніць свой дручок табе ў ачко. Ён у нас любіць ставіць козьлікаў накарачкі. І толькі паспрабуй рыпнуцца, я табе не адну рабрыну, а ўсе да апошняй косткі перетрушчу». Славянскамордая зьвяруга вываліла з портак тоўсты, але караткаваты канец.

"Узяў у рукі! Пачаў займацца... Пяшчотна, як са сваім". Над цеменем Графітыста завіс важкі дручок, каб у любы момант абрынуцца на галаву.

"Устаў. Можна ў рот. Глядзі ты на яго, проста майстар. Можа цябе адпусьціііііііааааааааАААА-АА..."

Зубы мастака сашчапіліся на чэлесе міліцыянта. Паранены выў. Ён хацеў аглушыць крыўдзіцеля дубінай, але паралітычны боль скруціў цела. Пальцы Графітыста сьціснулі ядры лейтэнанта горш за жалезныя абцугі. Азьвярэлы мінетчык пачаў аддзіраць ад службіста большую палову й так закароткага чэлеса. Мент роў. Так раве стары сьмяротна паранены леў, калі яго рвуць на шматкі гіенавідныя сабакі. Міліцыянт спадзяваўся, што на крык зьбягуцца браты-калегі. Толькі сьцены былі таўшчэзныя, дзьверы мэталічныя, а калегі глухія, бо думалі, што раве ды стогне закатаваны арыштант.

Гэтым разам адышоў ад памяці выпакладаны лейтэнант. Сьвядомасьць ня вытрымала зьдзекаў і адключылася.

Графітыст з акрываўленым ротам і кавалкам чэлеса за шчакою шалёнымі скачкамі праляцеў па калідорах і выскачыў у дажджыстую ноч. Ён бег дварамі, а пачуўшы сырэну "хуткай дапамогі", даў нырца ў пад'езд. Толькі ў цёмным кутку гарышча ён выплюнуў чалавечыну. Праз слухавое вакно ён падставіў твар пад дождж і сказаў: "Мастацтва, паглядзіце вы на яго, патрабуе ахвяраў".

Лейтэнанта камісавалі па інваліднасьці. Мастак застаўся мастаком, праўда, у іншай краіне, а дыктатура працягвае быць дыктатураю. ■



## Роса БЭЛЬТРАН

# ГРАФІЦІ

Яна можа ўжо быць у пэўным веку, можа насіць акуляры і, калі слухаецца мужа, дык можа быць і трохі дурнаватай, хоць і надзвычай прадпрымальнай жанчынкай. Увявім сабе, што яна вучыцца ва ўнівэрсытэце і спрабуе атрымаць гуманітарную адукацыю, скажам, на аддзяленьні клясычнай філялёгіі, і з тае прычыны са скуры вылузваецца, каб, сабраўшы ўсю сваю сьмеласьць, раз-пораз уздымаць руку на занятках, так, як робяць усе добрыя студэнткі. Уздымаць руку, каб паразважаць аб нечым — няважна аб чым — з адпаведнай урачыстасьцю. Яна сядзіць ня справа, побач з абранымі, як яны самі сябе зазвычай называюць, а туліцца зь іншага боку, там, дзе сядзіць «народ» або, як кажуць, *il popolo*, і таму ёй не пагражаюць выступы з разумнымі прамовамі, але ў гэтым яна не самотная, бо ж ня ёй адной часам бывае цяжка зразумець сэнс трактатаў Тацыта, Публія Авідыя Насона і асабліва пытаньняў прафэсара Пэлегры.

І вось яна ўздымаецца са свайго месца і выходзіць з аўдыторыі, кіруючыся ў прыбіральню. Крыху чакае, хвілінаў з дзесяць, ня болей, і займае кабінку. Тут яна зьбіраецца зрабіць тое, што звычайна робяць у падобных сытуацыях. Кажу звычайна, бо можа так надарыцца, што наведніца возьме ды гляне перад сабой на засунены дзьверы, сутыкнецца менавіта з гэтым і зьдзівіцца. Яна пачне азіраца наўкола, хоць больш нікога і няма (часам ёй здаецца, што за ёю сочаць) або адчуе затоены позірк чыйсьці вачэй, якія сваім холадам лашчаць ейнае цела, прымушаючы ўдаваць спакой. На шчасьце, яна ведае, што гэтае адчуваньне няўтульнасьці за імгненьне зьнікне, і таму яна можа асьцярожна пасунуцца і зблізку разгледзець унушальных памераў чэлес, а ўнутры яго надпіс чырвоным «Пяшчотна мяне пацалуй», і яна зноў адчувае, што чырванее і задыхаецца кожны раз, як шэпча сабе гэта ў цішыні, і што ня можа стрымаць усьмешкі і пэўнага ўзрушэньня ад тае думкі, што астатнія цяпер, відаць, вядуць дыскусію наконт Гамэра ці Ксэнафонта, ня кажучы ўжо пра тых, хто сядзіць наперадзе: тыя ўжо, відавочна, палемізуюць, сачыняюць, выпраўляюць адзін у аднаго памылкі. Навука досьведу сьвядомасьці.



Раптам, побач зь вялізным чэлесам, ёй кідаецца ў вочы большы надпіс: «Нам усім гэта ў кайф, бо ўсе мы блядзёхі!» Яна адчувае, як раптоўна зьмяняецца ў твары, бо мусіць задаць сабе сакрамэнтальнае пытаньне: ці насамрэч яна ёсьць тою, кім, як сьцьвярджаецца, яна ёсьць. Тут яна з палёгкай выдыхае і няспешна ківае «так», пасьміхаючыся сама свайму тымчасоваму сумневу, бо ведае, што яна, на шчасьце, з тых асобаў, якія прысьвячаюць жыцьцё іншым рэчам, што яна не належыць да *aurea mediocritas*, як гэта называюць, і, хоць яе надзвычай моцна ўражвае чалавечая тупасьць, яна разумее, што нічога зь яе інтэлігентнасьцю ня здарыцца, калі яна трохі наблізіцца, каб разгледзець чырвоную лінію ў форме чэлеса, які залягае ў чыймсьці роце, і заўвагу побач «Асьцярожна: струк таўсьцее!» за подпісам аўтаркі. Ёш тваю качалку-мачалку! Яна працягвае разглядаць самыя гідкія надпісы, найбрыдчэйшыя малюнкі, і ў яе пачынае галава тачыцца ад гэтых каляровых і вельмі прыгожых літарак, выведзеных зь любоўю ейнымі каляжанкамі. Апрача таго, яна ўпэўненая, што й мужчыны, мусіць, пішуць у прыбіральнях свае споведзі, зусім не падобныя на споведзі сярэднявечных сьвятых; толькі падумаўшы пра гэта, яна зноў чырванее.

Яна пачынае падазраваць, што тая, што чакае пад дзьвярыма свае чаргі, ужо, мабыць, памірае, але ў той самы момант са зьдзіўленьнем заўважае малюсенечкі надпіс, нашкрабаны алоўкам, які нібыта хоча схавацца сярод іншых; яна бачыць чуе голас дрыготкіх літараў: «Дапамажыце зрабіць аборт!» — і яе як прыгаломшвае; яна рэзка адхінаецца, спуджаная, бо ў гэты час нехта грукае ў дзьверы — два сухія патрабавальныя ўдары — і дадае «давай хутчэй». Перш чым адчыніць, яна, падпарадкоўваючыся нейкаму дзіўнаму імпульсу, шукае ў сумачцы, сярод квіткоў і чэкаў, асадку і піша ледзь большымі за сам надпіс значкамі: «Аборт — гэта злачынства!» Адкідаецца назад, аглядае свой твор і пасьміхаецца. Яна адчувае штосьці блізкае да шкадаваньня, да якога далучаецца пах тлушчу і смажаніны з кухні на першым паверсе, дзе сярод сабачага брэху, сьмецьця і ежы можна пачуць урыўкі з «Карміны Бураны», якія выводзяць студыёзусы на занятках па лаціне; яна дадае да свайго надпісу «Памажы табе Бог», безвынікова торгае ланцужок змыву і, задаволеная, выходзіць з прыбіральні.

Звонку пара жанок з васковымі тварамі чакаюць свае чаргі, іншыя займаюцца макіяжам і падмалоджваюцца; ёй думаецца, што яны, відаць, маюць на гэта свае прычыны, бо й за дзьвярыма памяшканьня, у якое няма доступу хлопцам і на дзьвярах якога напісана «Ж», людзі думаюць ня толькі пра Сэнэку, Вергілія ці Цыцэрона. Яна ня дужа дасьведчаная ў іншых матэрыях, бо паступіла сюды, калі мела ўжо сорак гадоў і мінімум ведаў пра тое, як трэба вучыцца ва ўнівэрсытэце, але яна можа сабе ўявіць, што, акрамя іменаў, мала што мяняецца ў сумежных лекцыйных залях.

Хоць, падумалася ёй зьнянацку, і ад думкі гэтай яна пачувае сябе прыемна ўсхваляванай — тыя ж фразы прафэсара Пэлегры пра Катула маглі б сапраўды ўзбуджаць, калі б мужчына, які іх прамаўляе, адначасова, прыкладам, разглядаў ейныя ногі. Праз вокны калідору прабіваецца сьвятло, і яна ўжо амаль наважваецца зайсьці пасядзець на тым, што застаецца ад занятку (бо ж яна сама прыдумала вучыцца, каб узьняцца ў мужавых вачах), але раптам яна адчувае нестрымнае жаданьне вярнуцца ў тую невялічкую кабінку жаночае прыбіральні.

Павесіць траха не скураную сумачку, насамрэч зробленую з плястыку кававага колеру (такая танная, хоць і харошая), прысесьці і ўперыцца вачыма ў дзьверы — усё гэта яна і робіць; у кабінцы ж яна адразу ніякавее і сьмяецца. Астатнія могуць падумаць, што яна крыху «таго», але як жа не засьмяяцца, калі нехта так апэратыўна адказаў на ейнае пасланьне. Яна чытае і адразу чырванее: «Які гінэколяг з тваёго Бога?» Яна адчувае віну, але яна не пасьпявае аваладаць ёю цалкам, бо ў той самы момант ёй трапляе на вочы малечкая плямка чарнілаў: тэлефон. Яна корпаецца ў сумцы, выцягвае квіток з хімчысткі, бярэ ў рукі тую самую асадку, якой пісала ў мінулы раз, і, сама ня ведаючы чаму, занатоўвае нумар.

Яшчэ да таго, як у дзьверы нехта роспачна грукоча, яна складае і хавае шматок паперы з пазначаным тэлефонам.

Пасьля зноў безвынікова торгае за ланцужок і амаль ляціць з прыбіральні, адчуваючы на душы вялікую палёгку.

**Пераклаў з гішпанскай
Анатоль Прасаловіч**

***Роса Бэльтран** (нар. 1960, Мэхіка). Мэксыканскі празаік і перакладчыца, літаратуразнаўца-кампаратывіст. У 1991 годзе атрымала прэмію Нацыянальнага Фонду Культуры і Мастацтва. Гэтае апавяданьне — са зборніку «Каханьне, якое забівае».*

# ЧАРГОВЫ «NAJAZD» НА ПОЛЬШЧУ

Беларускі фільм заняў другое месца на міжнародным фэстывалі ў Кракаве. Там жа 6 кастрычніка граў «Народны Альбом», а 8 кастрычніка «Крыві», «Новае Неба», «Ulis» і «N.R.M.» выступалі ва Ўроцлаве.

У суботу ў Кракаве закончыўся міжнародны фэстываль дакумантальных фільмаў пад назвай «У сябе», прысьвечаны тэме нацыянальных меншасьцяў. Фэстываль ішоў цягам усяго мінулага тыдня і прэзэнтаваў асноўныя краіны Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, а таксама Вялікую Брытанію, ЗША, Манголію і Кітай.

Фільм беластаччаніна Міколы Ваўранюка «Часам мне сьніцца Хана» заняў другое месца. Гэта фільм — гісторыя супольнага жыцьця беларусаў і жыдоў падляскага мястэчка Нарэўка. Гісторыя, якая скончылася ў 1941 годзе з прыходам немцаў. Але найперш гэта споведзь галоўнага героя, які гаворыць пра каханьне між ім — праваслаўным, і ёю — жыдоўкай, і пра тое, чаму ён ня выратаваў сваю любую ад расстрэлу...

Фэстываль скончыўся ў суботу вялікім фэстам на кракаўскім Рынкавым пляцы. Але перад тым, у межах «культурнай праграмы» фэстывалю 6 кастрычніка ў старажытным абарончым умацаваньні Кракава «Барбакане» граў «Народны Альбом». Можна па рознаму ставіцца да думкі, што «Народны Альбом» непасрэдна зьвязаны з «праблематыкай» нацыянальных меншасьцяў. Але прэзэнтацыя «супольнага праекту» сярод муроў старога Кракава сталася чарговай культурнай «бомбай», якая выбухнула ў Польшчы.

Мы ўжо пісалі пра посьпех «Народнага Альбому» ў Познані і Беластоку мінулай восеньню і пра сёлетні травеньскі выступ у варшаўскім Малым Тэатры. Адмыслова для палякаў аўтар тэкстаў і ўсёй канцэпцыі «Альбому» Міхал Анемпадыстаў зрабіў канфэранс, які дазваляе «ўрубіцца» ў дзею, нават не разумеючы часткі словаў.

Найперш дзякуючы «Gazecie Wyborczej» беларускія рокеры былі разрэклямаваныя ў Польшчы, а выступ «Народнага Альбому» нават патрапіў у сьпіс найважнейшых падзеяў польскага культурнага жыцьця мінулага году. Ня дзіва, што гэтым разам польская цэнтральная тэлевізія вырашыла зафільмаваць імпрэзу цалкам. На думку некаторых «альбомазнаўцаў», гэты кракаўскі выступ стаўся ці не найлепшым пасьля прэзэнтацыі ў сьнежні 1997 году ў менскім ТЮГу. Таму «фэнам» «Альбому», якія жывуць у заходніх раёнах Беларусі, альбо маюць доступ да сатэлітаў, раім сачыць за праграмкай польскай TV.

**Севярын Квяткоўскі**

# ТЫРАНЫ Ў ВЫГНАНЬНІ

Вадзім КАРЦАЎ

Які лёс чакае дыктатараў пасьля таго, як яны страцілі ўладу?

Магчымы варыянт Чаўшэску — хуткі суд на хвалі народнага гневу і расстрэл перад тэлекамэрамі. Або выгнаньне з краіны. Спакойная старасьць у такім разе магчымая для экс-бацькі, толькі калі міжнародная Фэміда не захоча сфармуляваць прэтэнзіі, як да Пін准ачэта або Мілошавіча.

На ўскраіне Парыжу ў абшарпанай кватэры разам з маці й пяцю сабакамі жыве 48-гадовы экс-дыктатар і былы пажыцьцёвы прэзыдэнт Гаіці Жан-Клёд Дювалье, рэжым якога трымаўся 15 гадоў на тэроры й рэпрэсіях і рухнуў у выніку народнага паўстаньня. Некаторы час пасьля ўцёкаў ён вёў сьвецкае жыцьцё на Лязурным Беразе, але хутка спусьціў нарабаваныя шчэ бацькам дзясяткі мільёнаў даляраў, пакуль замежныя банкі не замарозілі рэшткі актываў злачыннай сям'і.

Былы прэзыдэнт Паўднёвага Віетнаму Нгуен Ван Тхеў пасьля ўцёкаў у 1975 годзе з Сайгону ў ЗША жыў у заможным раёне Бостану. У мясцовых банках, паводле некаторых зьвестак, знаходзіцца ладная частка скрадзенага ім залатога запасу краіны. Пільная ўвага журналістаў прымусіла Тхеў патаемна прадаць вілу і зьехаць у невядомым кірунку.

Злучаным Штатам сваёй свабодай і жыцьцём абавязаны галава гаіцянскай ваеннай хунты Рауль Сэдрас. У 1994 годзе Вашынгтон прапанаваў яму інтарэс разам з ультыматумам: альбо генэрал сам адмаўляецца ад улады на карысьць законна абранага, але часова скінутага Жана-Бэртрана Арыстыда й пакідае Гаіці, атрымоўваючы за гэта шыкоўную сядзібу ў Панаме і дазвол карыстацца рахункамі ў амэрыканскіх банках, альбо... тое самае, толькі дасягнутае сіламі амэрыканскіх марскіх пехацінцаў. Сэдрас згадзіўся, і цяпер піша мэмуары.

Лідэр лівійскай рэвалюцыі Муамар Кадафі прытуліў былога прэзыдэнта Ўганды, фэльдмаршала Іды Аміна, якога ў 1979 годзе скінуў народ з дапамогаю танзанійскіх войскаў. Кадафі лічыў Аміна сваім сябрам, пакуль не даведаўся, што той рэгулярна ласаваўся чалавечынай, а менавіта сім-тым зь лідэраў угандыйскай апазыцыі. Канібалу тады неадкладна прапанавалі пакінуць Лівію, і з 1980 году ён жыве ў Савудаўскай Арабіі.

Дакладна невядомы лёс былога парагвайскага дыктатара Альфрэда Стрэснэра. Пасьля зьвяржэньня і ўцёкаў з краіны ён атрымаў від на жыхарства ў Бразыліі, дзе жыў далёка ня бедна. Паводле інфармацыі з бразыльскіх газэтаў, састарэлы экс-генэрал займаў дарагую фазэнду пад аховаю сотні агентаў «сэк'юрыты». Як і раней, ён цікавіўся рыбалкаю, мэксыканскімі тэлесэрыяламі і чытаньнем кніжак.

«Сьцяганосец ідэяў камунізму на Афрыканскім Розе» Мэнгісту Хайле Марыям, былы генэральны сакратар ЦК Рабочай партыі Эфіёпіі, 15 гадоў «рэалізоўваў навуковы сацыялізм» ва ўмовах сваёй краіны. Калі ў 1991 годзе войскі апазыцыі падыходзілі да Адыс-Абэбы, Мэнгісту з бліжэйшым атачэньнем сеў у самалёт і пераляцеў на поўдзень Афрыкі, у Зімбабвэ. На радзіме яму завочна прысудзілі сьмяротнае пакараньне, абвінаваціўшы ў генацыдзе ды іншых злачынствах супраць уласнага народу. А ўжо ў 1992 годзе, паставіўшы сваіх зімбабвійскіх патронаў у няёмкае становішча скандальнымі публічнымі заявамі, непрымірымы падпалкоўнік быў ізаляваны на цэлых сем гадоў у невялікім трохпакаёвым дамку. Сёлета Мэнгісту Хайле Марыяма выпусьцілі на волю, і ён адразу перабраўся ў Паўночную Карэю на запрашэньне тамтэйшага дыктатара Кім Чэн Іра.



НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

____________________

____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

Наша Ніва 90 гадоў таму

# «Зьезд заходне-рускіх людзей» у Кіеве

*15 кастрычніка 1909 году*

У Кіеве быў зьезд «заходне-рускіх людзей» Заходняга краю. За прадсядацеля выбралі праф.Сазановіча (дэпутат Гас. Думы, правы), каторы добра вядомы нашым чытачам тым, што на зьезьдзе «Крестьяніна» ў Вільні гэтай вясною даводзіў нашым народным вучыцялём, якую шкоду робіць ім вышэйшая навука, і радзіў яе сьцерагчыся!

Як відаць з атчоту зьезду, усе думкі сабраўшыхся былі адно аб тым, каб у земства не пусьціць палякоў ды аддаць усю гаспадарку нашай старонкі у рукі «істінна-рускіх».

Мацон тлумачыў, што ў Беларусі жывуць толькі рускія, палякі, літвіны і жыды, але ў канцы такі прыпомніў, што і беларусы яшчэ не зьвяліся. Ну, дык не бяда: і на гэта пан Мацон знайшоў раду! Праваслаўных мужыкоў беларускіх ён проста аб'явіў «рускімі», а аб беларусах-каталіках сказаў, што хаця і нельга назваць іх «палякамі», але ўсё ж трэба баяцца іх, бо яны пойдуць пад каманду польскіх памешчыкоў! Вось і радзіў пан Мацон, каб на выбарах у земства падзяліць нашых сялян на дзьве часьці: праваслаўных запісаць у рускія выбаршчыкі, *а беларусоў-каталікоў — у палякі*!

Слухаючы гэтыя мудрыя словы, абурыўся нават такі чалавек, як праф. Кулакоўскі, каторы ўжо ня раз пісаў у газэтах проці беларусаў і ніколі не лічыў сябе прыяцелем нашага нацыянальнага адраджэньня. Праф. Кулакоўскі сказаў, што ён не разумее, як можна аддзяляць праваслаўных беларусаў-мужыкоў ад такіх самых мужыкоў-каталікоў. Апошнія пяць гадоў ён жыве меж беларусамі каталіцкае веры і ведае, што яны гавораць чыстай беларускай мовай і трымаюцца ўсіх тых звычаёў і поглядаў, як і рэшта беларусаў праваслаўнай веры.

Тут пайшла на зьезьдзе спорка: нават вядомы менскі Шмід — і той не згаджаўся зь віленскімі саюзьнікамі. Тады на падмогу Мацону выйшаў добра ўжо знаёмы нашым чытацелям пан *Кавалюк*, рэдактар «Крестьяніна», закляты вораг адраджэньня беларускага народу. Усімі сіламі стараўся ён угаварыць зьезду, што рада Мацона вельмі карысна для абрусіцеляў Беларусі: аддаўшы палякам беларусаў-каталікоў, можна будзе рабіць так, каб у земствах камандавалі толькі рускія людзі — такія, што выйшлі з мужыцкай хаты — і сталі інтэлігентамі, як сам пан Кавалюк.

Кіеўскі зьезд паслухаў паноў Кавалюка і Мацона і прызнаў, што трэба разьдзяліць беларусаў паводле рэлігіі. Яшчэ зьезд пастанавіў паслаць першаму міністру Сталыпіну тэлеграму з просьбай, каб у Віленскай і Ковенскай губэрнях зусім не заводзіць канечне патрэбнага для іх земскага самаўпраўленьня. Такім парадкам «істінна-рускія» паказалі, як яны дбаюць аб карысьці і развіцьці нашага краю.

Добра, што нарэшце такі адкрыта прызнаўся пан Кавалюк, чаго ён хоча: для карысьці рускіх паноў-памешчыкаў і такіх беларусаў, як Кавалюкі, парэзаць беларускі народ на дзьве часткі і каталікоў-беларусаў прадаць палякам! ■

## прыватныя абвесткі

**Часопіс «Калосьсе»** № 6 можна замовіць па адрасе: Аляксандар Козік, вул. М.Багдановіча 9-17, 211413, Полацак (300 т.р.)

**Прапануем кнігі** «Зімовыя сны» В.Мудрова, «Выбранае» А.Аркуша, «Рытуал» Ю.Гумянюка (усе па 300 т.р.). Аляксандар Козік, вул. М.Багдановіча 9-17, 211413, Полацак

**Калекцыяную тэлефонныя карткі** — беларускія й замежныя. Калі хто мае ды непатрэбныя — дашліце. Буду вельмі ўдзячны. Адрас: а/с 169, 220030, Менск

Хлопец (24), в/а, **філёляг, шукае працу.** Тэл.: 265-75-73. Эдвард

**Дзякуй** усім, хто дапамагаў рабіць Study Visit EYC. Андрэй.

**Прадаю шкло** ад сэкцыі «Vilnius» — 10 шт. (43x52 см), **пісьмовы стол, тэлевізар** «Гарызонт»-261. Тэл. 265-75-73

**Шукаю сяброў і сяброўак.** Цікаўлюся: усходнімі адзінаборствамі, рок-музыкай. За Вольную Беларусь. Пішыце: Салігорск, 223710, Багамолава 24-209

**Хачу ўступіць** у «Малады Фронт». Што патрэбна для гэтага? Напішыце: Салігорск, 223710, Багамолава 24-209

**Хачу набыць** кнігу «Бо было ж прызначэньне». Салігорск, 223710, Багамолава 24-209

Абаяльны **прыхільнік сэксу** шукае актыўных мужчын бяз комплексаў. 220141, а/с 78 «і», Менск

**Набуду** маркі БНР. Т. 274-58-08

**Шукаю відэастужкі** гуртоў «Камэлот», «НРМ», «Новае Неба», «Жыгімонт Ваза» і г.д. Т. 274-58-08

**Набуду чыстыя блянкі** пашпартоў узору 94-96 гадоў з «Пагоняй». Т. 274-58-08

**Pradaju** žanočy paŭkažušok z francuskaha futra, novy, pamier 46, kolier karyčnievy, 200 u.a. T. u Homieli: 53-89-17

Музычныя замежныя **відэапраграмы.** 980 тыс. паштовым перакazam. Вышлю каталёг. Пазначце зваротны адрас. 220107, а/с 150. Фёдараву Дзянісу

**Беларусь**, Айчына чакае твайго дзеяньня! Будзь з намі, і Мы пераможам! ЗАМ «АГМЕНЬ». 220024, а/с 264

**Zaprašajem** prychilnikaŭ sapraŭdnaha Adradžeńnia! Žyvie VKL! A/s 124, 246012, Homiel



**Прапануем в/а працу** ў хаце (250 у.а.). Даступная ўсім. Укладзіце 2 кап. са зв/а + купон б/а. 22089, Менск, а/с 122

**Запрашаю** сумленных маладых людзей да ўдзелу ў цікавым бізнэсе. Тэл.: 235-83-36 (Ганна)

**Калі** ёсьць за што помсьціць. Намесьнік

**Паўстань,** народ!.. З крыві і сьлёз кліч гэты... Цябе чакае Маці-Беларусь! Янка Купала

**Лягчэй** будзе сэрцу, як згіне маскаль. Зь беларускае паэзіі XIX ст.

**Прывітаньне ўсім** змагарам за вольную Бацькаўшчыну. Раман з-пад Салігорску

**Чыноўнікам!** Дай нам, Божа, такую ўладу, пры якой мы ня думалі б аб сабе, не прыніжалі іншых. Дазвалялі казаць праўду адзін аднаму, не лічылі б сябе бязгрэшнымі. Сымон Будны

**Білет сябра БНФ «Адраджэньне»**, выдадзены 17.11.97 на імя Ганны Шарамецьевай і згублены 25.09.99 г., прашу лічыць несапраўдным. Ганна Шарамецьева

## паштовая скрынка

**Аляксандру У.** з Гомеля. *Мы адлюстроўвалі й будзем адлюстроўваць жыцьцё, клопаты, жаданьні і патрэбы беларускага народу. Гэтак было ў 1906, 1991 годзе і цяпер. Мы мяняемся разам зь ім. Мы ідзём зь ім роўным ходам, к роўным зыскам, к роўным стратам.*

*Наклад газэты залежыць ня толькі ад таго, колькі людзей гатовыя яе купляць, а і ад таго, колькі грошай яна мае ў абарачэньні.*

*Чаму ж, па-Вашаму, «лёгкая атлетыка — самы беларускі спорт»?*

*Чаму б і Вам у суботу-нядзелю не дасылаць нам электронную пошту свае водгукі й камэнтары?*

**Сяргею Ш.** з Наваполацку. *Маем, трымаем, дадамо.*

**А.Ч.** з Ольштыну. *«Кіньма, Юзік, водку піць, Пойдзем на работу. Будзем грошы атрымоўваць Кожную суботу».*

**Аляксандру Л.** зь Менску. *Пісьменьнікаў запрашайце да сябе ў школу ня гамузам, а асабіста. А то прыйдзе яшчэ які дзед, твораў якога Вы ня любіце. Калі трэба чые адрасы-тэлефоны, пытайцеся ў нас, мы падкажам.*


«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Адказны сакратар Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Набор Насты Дзядзенкі. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537. Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.





Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 2845. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 3:33, 11.10.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 5207. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.